Пралетарыі усіх краёў, злучайцеся!





# ЗАРНІЦЫ

## ТРЭЦІ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ ПОЛАЦКАЙ ФІЛІІ УСЕБЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ ПАЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ «МАЛАДНЯК».



ВЫДАНЬНЕ
ПОЛАЦКАЙ ФІЛІІ „МАЛАДНЯКА“.
ПОЛАЦАК, 1928 г.

# ПРАДМОВА

Полацкая філія «Маладняк» выпускае ў сьвет новы зборнік сваей творчасьці. Гэты зборнік, як і ранейшыя два складаюцца з творчасьці паэтаў і пісьменьнікаў узгадаваных і выпеставаных на ўзлоне свабоднай Полаччыны, Чырвонай Полаччыны.

З таго часу, як з Полаччыны эмыўся бруд царскае расейшчыны, з таго часу, як працоўныя Савецкага Саюзу ў крывавай бойцы ськінулі гнёт эксплёататараў—прайшоў дзесятак год. Гэты нязначны ў часе пэрыяд паказаў нам, з якой упартай напруджанасьцю рабочыя і сяляне Савецкай Беларусі, разам з рабочымі і сялянамі ўсяго Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, ўзяліся за перабудову жыцьця на сацыялістычных началах.

Працоўныя масы пачалі будаваць новае, сацыялістычнае жыцьцё і ў песьнях апяваць гэта будаўніцтва.

На Полаччыне зьявіліся мастакі слова, вызначэньне якіх адносіцца к часу пасьля сацыяльнага, палітычнага і нацыянальнага вызваленьня рабочых і сялян Беларусі.

Выданыя раней Полацкай філіяй «Маладняка» зборнікі зьяўляюцца этапамі ў разьвіцьці літаратурных сіл Полаччыны.

Зборнік «Надзьвіньне» (выданы ў 1926 г.) у асноўным апяваў свабоду і перамогу працоўных

Савецкай Беларусі; апяваў Полацак, як асяродак беларускае культуры ў мінулым («Фр. Скарына»— Хурсіка, «Полацак»—Дудара, «Дзьвіна»—Александровіча і г. д.) і вышаўшыя працоўныя масы Беларусі на свабоду. Разам з тым гэты зборнік зьяўляўся арганізаваным адказам культурных сіл Полаччыны і ўсяе Беларусі на вялікадзяржаўныя, шавіністычныя вылазкі «насіцеляў былога вялічча».

Другі зборнік «Росквіт» (выданы ў 1927 г.) знамянуе сабой самавызначэньне і акрэсьліваньне (Росквіт) паасобных літаратурных адзінак Полаччыны з захаваньнем у асноўным агульнага мэтаімкненьня да апяваньня мінулага Полаччыны і ўсяе Беларусі, ў змаганьні за волю («Пад панскай няволяй» С. Сямашкі, «Партызаншчына»—Відука, «О, Беларусь!»— П. Броўкі, «Стой пралетары пільней на пасту»— Хурсіка, «Два»—Хадкевіча і г. д.), абмаляваньне паасобных момантаў быту і працы працоўных.

Новы зборнік «Зарніцы»—трэці па ліку,— зьяўляецца голасам апявяньня пастаўленых і правадзімых зараз партыяй і Савецкай уладай задач па калектывізацыі і каапэраваньню вёскі, змаганьне за гэтую справу.

«Зарніцы» з'яўляюцца калектыўным голасам за справу сацыялістычнае перабудовы вёскі. («Суполка»— Сямашкі, «Зноў на вёсцы»—Броўкі і г. д.).

Разам з іншымі тэмамі, не апошняе месца займае і тэма быту ў вёсцы.

Стары быт у вёсцы складаўся пры эканамічным і культурным заняпадзе гаспадаркі. Разам з перабудовай вёскі на новых, сацыялістычных началах стары быт, нібы лёд увесну крышыцца, ламаецца, і праз гэты лом вызначаецца твар новага быту, Савецкага быту.

Тэматыка творчасьці ў кожным зборніку асобная. Гэта сьведчыць аб тым, што поэты і пісьменьнікі Полаччыны ўвесь час імкнуцца ісьці разам з жыцьцём, распрацоўваць тыя тэмы, разьвязваць тыя пытаньні, якія зараз хвалююць усю савецкую грамадзкасьць.

«Зарніцы» зьяўляюцца новым этапам ня толькі ў тэматычным, але і ў мастацкім удасканаленьні. Калі ў вершах папярэдніх зборнікаў траплялася сустракаць часта зьбітыя, зацяганыя рыфмы на дзеясловы, то «Зарніцы» зьяўляюцца ў гэтай справе крокам наперад.

Ня можна абыйсьці моўчкі і росту прозы у зборніках Полацкай філіі.

Калі ў «Надзьвіньні» было зьмешчана ўсяго два апавяданьні ды адзін абразок, а ў «Росквіце» тры апавяданьні двух аўтараў, то ў «Зарніцах» зьмяшчаецца семь закончаных апавяданьняў. Гэта вялікае дасягненьне, бо зараз з'яўляецца вялікі попыт сярод чытачоў на вялікі, мастацкі закончаны твор.

У зборніку «Зарніцы» прымаюць удзел некалькі новых асоб, якія ня прымалі удзелу ў выданьні папярэдніх зборнікаў.

Выпускаючы ў сьвет новы зборнік—Полацкая філія «Маладняк» яшчэ больш упарта возьмецца за справу паглыбленьня сваіх ведаў, за справу тэхнічнага ўдасканаленьня сваёй творчасьці, за справу больш дакладнага вывучэньня жыцьця, каб наступны зборнік зьявіўся новым этапам як у разьвіцьці пасобных творчых адзінак, так і ў разьвіцьці літаратурнае Полаччыны.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА.

# Чырвонаармейцу

Ну як забыцца,
як не напісаць
ліста табе мой любы дружа,
цяпер у нас—
сьнягоў парча
марозы скачуць, вее сьцюжа...

А зоры ў небе,
ў небе зоры
нібыта сьвечкамі гараць...
Ты пішаш—
ходзіш на дазоры,
ты пішаш—
вучышся страляць.

Калі чытаў
дык рад быў дужа,
што ты ў роце выбіў прыз.
Я так і знаў,
што ты мой дружа
не падзеш галавою ў ніз.

Я знаю:
ў сьветлы, Першы Май
ты пройдзеш вуліцай, парадам.
Вас будуць усе—
глядзець, вітаць
з чырвонаармейскаю прысягай.

А ты вінтоўкі
ўзьняўшы штык
я знаю з гонарам ты скажаш:
я камунар... я бальшавік,
калі патрэбна—
косьцьмі лягу
за волю роднае краіны,
а з рук аружжа я ня кіну.

Бацькі тваё
па стараму жывуць.
Прывезлі бёрны
ладзіць хату,
падзарабілі езьдзячы на рум,
к таму-ж—
ім ськінулі падатак.

На вёсцы моладзь
ходзіць ў клюб,
там то спэктаклі, вечарыны...
Ага... Анюта ўзяла шлюб
з Міколам, Карпяёнка сынам.
Цяпер
вясёла ў нас.
Хоць і зімой—
сьнягамі пырскае мятлюга.
А ты вучыся брат
каб цяжкаю парой
адбараніць бацькоў, радзіму, друга.

ТАРАС ХАДКЕВІЧ.

У гэты заравыя дні
напорнай рацьцю—
валім:
палёў, балот глухіх сыны
ды гарадзкіх падвалаў.

Пажар усходні не патух,
заліты кроўю пыша...
Ім адзначаем мы вярсту
да новага узвышша...

Іграй, труба, паходны
марш—
віхурам сьветлы помнік,
бо помнім рокаты гармат,
яшчэ яскрава помнім.

Абвіты славай гордай
шлём—
прышлі часы другія...
Мы над вясеньняю зямлёй
сьпяваем волі гімны.

Зьнікай ад нас далей туман
у шоўкавым раздольлі!
Такіх ваяк мільёны—
шмат,
а будзе болей, болей...

У гэты заравыя дні
напорнай рацьцю—
валім:
палёў, балот глухіх сыны
ды гарадзкіх падвалаў.

1928 г.

---

## Па новаму

І злуе
за вакном зіма,
нібы страхі—даўгія цені...
Са сьцяны паглядае Маркс
ды у рамках узорных—
Ленін.

Завіваецца шоўкам дым
ад газьніцы
пад чорнай стольлю...
Замятае віхор сьляды
і дарогі ў далёкім полі.

Кнігу бацьку чытае сын
пра зямлю, новы быт, саветы
ды зьлятаюць далей часы,
як за вёскай вясёлы вецер.

Маці дрэмле ды ніць прадзе,
дагараюць у печцы дровы.
А на ложку сівенькі дзед
панахмурыў густыя бровы.

Многа дзён пераржыў стары,
а такіх, як цяпер—
ніколі.
Гоман слоў маладой пары
нечым новым у сэрца коліць...

І злуе
за вакном зіма
нібы страхі—даўгія цені...
Сьніцца дзеду з усьмешкай Маркс,
дарагім і знаёмым
Ленін..



**АЛ. АГНІСТЫ.**

# Вакзал

Вакзал. Пэрон. Вясёлы сьмех людзей
ліецца звонкаю, адрывістаю хваляй...
Цягнік чакаюць—поўны ўсе надзей,
што хутка будуць там
ў бяздонных далях.

Чакаюць.. І снуюцца думкі-сны
бадзёрыя... аб мітынгах, парадах...
У кожнага на сэрцы—дні вясны
сымфонію нязнаную іграюць.

І раптам—
там здалёк агонь
усё ясьней палае зоркай яркай...
Узварухнуліся... забегалі бягом,—
цягнік плыве,
грукочучы па рэйках...

Плыве, бы здань, спыняючы свой рух,
акорд выстуквае пакотамі рытмічна...
спыніўся ўжо
і ўсё сапе «вух»... «вух»...
так цяжка дыша, стогне зычна.

СЬЦЯПАН СЯМАШКА.

# СУПОЛКА

## (АПАВЯДАНЬНЕ)

### I

— Адпрагай!.. бачыш, конь ня можа адбіцца ад аваднёў,—крыкнуў Ахрэму малады хлапец вядучы спацеўшага каня.

Ахрэм раптам узьняў залітыя потам вочы, азірнуўся па бакох і, зьмерыўшы з дакорам шырокую ніву, якую араў—выцер рукавом бруднай кашулі твар, сеў на дышаль плуга.

— Хачу скончыць вось гэты загон,—адказаў ён суседу.

— Кідай... будзе і на тым тыдні сем дзён. Я вось вяду папасьвіць у кусты, а то душа вон лезе ў такую сьпёку, ногі ня хочуць хадзіць за плугам.

— Твая, Макар, іншая справа...

— Што, ці не зайздросьціш мне?

— Нее... але ўсётакі... ты, адпрацаваў лета і— гані заробленае Язэп, а тут вось бачыш сіратой глядзіць...

Ахрэм уздыхаючы паказаў на вузенькую не ўзаратую палоску.

— У цябе хоць паяскі гэтыя ёсьць, а ў мяне дык і рук няма за што зачапіць.

— Ведаю, братка, табе цяжэй яшчэ, чым мне і, калі я й сказаў што, дык гэта жартуючы.

Макар спыніў на ральлі каня і сеў ля Ахрэма.

Гарачае сонца ўпівалася залатымі стрэламі ў чорную ральлю папару і аксамітныя абрусы сенажаці. Жытнёвае поле ціха шапталася пабялеўшымі каласамі, яны нахіналіся да самай зямлі і здавалася, што поле рухаецца разам з подыхам ціхага ветрыку.

Усё трапяталася на сонцы і зацягвалася тонкай, чуць прыкметнай павуцінай. Ля коняй роем віліся авадні і мухі.

...А ў папары пахла гноем і сьвежай ральлёй.

— За якую-ж гэта ласку ты яму арэш?—пасьля кароткай маўчанкі запытаў Макар.

Ахрэм махнуў рукой.

— Эх!.. лепш ня пытай, Макар. . за тры пуды мукі трэба ўзараць вось чатыры такіх нівы, ды й касіць два дні прыдзецца.

— Ого-о!..

— Чаго гэта ты?

— Ці ня здурнеў ты так прадавацца!?

— Нічога ня зробіш, больш не дае, а тут дайшло, што хоць зубы на паліцу, крапіву няма чым закалаціць...

Некалькі часу маўчалі.

Макар дастаў з кішэні капшук з самасейкай і пачаў рабіць цыгарку.

— Закурым, Ахрэм, няхай дома ня журацца.

— Давай... гарчэй будзе на сэрцы, але мабыць туга хутчэй пройдзе.

— Плюй, браця, заўсёды-ж так ня будзе.

— Ды я пакуль што ня падаю ніцма.

— Сорамна было-б.

— І на пацеху нашым ворагам.

— А яны ня сьпяць, яны праводзяць сваю работу.

— Ды якую яшчэ...

— Знаходзяцца-ж дзівакі, давяраюцца ім, падпадаюць пад іх уплыў і гэтым самі сабе шкодзяць.

— Ліюць ваду на мельніцу сваіх ворагаў.

— А ўсе таму, што цемната, несьвядомасьць.

— Так, несьвядомасьць...

Сонца паднялося яшчэ вышэй і з большай яшчэ прагнасьцю ўпівалася праз кужэльныя сарочкі ў людзкое цела. Босыя ногі тапіліся ў гарачым як прысак пяску і так было прыемна калі ступаў на халодную вільготную зямлю ідучы разорам за плугом.

Ахрэм разблытаў лейцы, што конь падбіў пад сябе бароначыся ад аваднёў і расьсекшы паветра тоненькай пугай, запусьціў у зямлю плуг.

Макар накіраваўся з канём у хмызьняк.

— Заходзь-жа заўтра, у зёлкі разам пойдзем,—аклікнуў Ахрэм.

— Ну вядома...

— Мо‘ ўбачымся з хлопцамі, пагутарым наконт распачатай справы.

* * *

Сям‘я ў Ахрэма: старушка маці, ды сястра чатырнаццаці год. Два браты і сястра памёрлі, а старшага брата забілі на вайне, калі ваявалі з немцам. Бацьку пахавалі даўно, Ахрэм тады быў невялічкім хлопчыкам і пасьвіў кароў у пана Міхалоўскага, якога пасьля парабак засек тапаром за зьвярыныя адносіны да анданаршчыкаў і парабкаў.

Да паступленьня дабраахвотна ў Чырвоную армію, Ахрэм працаваў па людзёх парабкам і гадаваў маці і сястру.

...Шмат чаму навучыла Ахрэма Чырвоная армія. Зараз ён можа чытаць і пісаць, можа разьбірацца ў грамадзкім жыцьці; ведае, хто вораг працоўных.

Ахрэм зараз ведае ўжо як будаваць новае жыцьцё. Ен добра разумее, што новае жыцьцё само ня прыдзе, калі наперад да яго ня ісьці, калі не змагацца за яго.

* * *

— Сыночак мой родненькі, чаго-ж ты пячэшся на сонцы?.. Вяскоўцы даўно ўжо адпраглі, а ты і сам мучышся, і каня мучыш,—зьвярнулася да Ахрэма маці калі той пераступаў парог у хаце.

— Ніву хацеў скончыць,—адказаў ён.

— Ці-ж ба гэта больш дню ня было...

— Эгт... ты, мама, гаворыш, што й слухаць няма чаго.

— Ну во, ужо й крыўдзіцца.

— Ды як-жа: усе ўзаралі, а ў нас і гной ня вывезен яшчэ.

— Хіба-ж толькі гэта...

Паабедаўшы Ахрэм пачаў праглядаць газэту, а Хвядося прыбіраць са стала.

— Во, чуць не забылася.. Прыхадзіў-жа Янчонак з Паддубоў, цябе пытаўся...

— Што ён казаў?

— Перадай, кажа, Ахрэму, што справы наконт арганізацыі ідуць добра.

— І больш нічога?

— Нічога. У зёлках, кажа, убачымся з Ахрэмам і раскажу падрабязна, а цяпер няма часу.

— Маладзец, Трахім, даведаўся значыцца.

Хвядося села на лаве і абапёрлася абедзьвума рукамі аб стол.

— Ці вы гэта ўсё наконт тэй самай камуніі?— запытала яна ў сына.

— Не камуны, а арцелі.

— Ну ці арцелі...

— Як відаць справы вырашаюцца ў нашу карысьць, калі так перадаваў.

Хвядося пасунулася крыху на канец лавы і непакойліва пачала папраўляць на галаве хусьцінку.

— Кінь, сынок, гэтыя выдумкі... хай сабе яны арганізоўваюцца, а мы пражывём як-небудзь і так.., Усе людзі кажуць, што ня жыцьцё будзе, а пагібель...

— Якія-ж гэта людзі?

— Ды ўсе... Вось Язэп, Пілімон і Тодар ня дурныя-ж, а паслухай толькі, што кажуць наконт...

— Ведаю, ведаю я гэтых птушак. Яны пяюць у сваю карысьць, а ня ў нашу. Хто-ж ім тады будзе апрацоўваць зямлю за пуд мукі? Цяпер бачыш абліваюся крывавым потам на Пілімонавай ніве, а свая не аратая.

— Ну хай сабе... але ўсётакі неяк боязна. Хай людзі, а мы... Скора пойдзе земляўпарадкаваньне, прырэжуць зямлі...

— Няма чаго, мама, пужацца, склад арцелі падбіраецца добры, усе працавітыя, пудла ў працы не дадзём.

— Працавітыя, ды з голымі рукамі.

— Як з голымі?

— Ну што ты з Макарам маеш, альбо Аўдакім з Панасам?...

— Не адны-ж мы беднякі ідзём у арцель, з намі ідзе вось і Пілiп і Анухрэй... Дзяржава дапаможа.

— Боязна неяк...

Працадзіўшы яшчэ штосьці наконт арцелі, Хвядося вышла з хаты, а Ахрэм зноў утапіўся вачыма ў газэтных радкох.

---

II

Гэты дзень быў такім-жа, як і папярэднія дні: сьпёка, людзкія клопаты...

Часам клапатлівая работа перарывалася сваркай, альбо лаянкай з-за мяжы, з-за патравы, ці проста з-за таго, што барануючы Зьмітракова барана рогам перайшла па засеянай Лукашовай ніве; а ў другім месцы, на завароце з канём, Лукаш пераехаў з бараной па яравой руні Якуба. Хоць заўсёды было і вядома кожнаму, што шкоду гэтую яны робяць адзін другому не наўмысьна, але ніколі ў такім выпадку не абходзілася ціха.

Больш усяго лаяліся кабеты. А пачыналася ўсё з-за курэй. Пераляціць гэта цераз тынок Сідарашана сядуха ў Мікітаў гарод і давай крамсаць кіпцюрамі буракі зазываючы да сябе курчат,—Мікіціха адразу кідае паліць печ і чырвоная, як журавініна падбягае пад вакно Сідаравай хаты з ядранымі словамі:

— Я гэта для цябе сеяла?... калі-б табе вочы выдрала, як яна вунь усе лехі падрала...

Сідараха таксама кідае работу і маланкай вылятае з хаты з такімі-ж адборнымі словамі:

— Каб табе й вочы так завязала, як у яе абвязаны рызьзём ногі, пляткарка ты.

— Горшай няма, як ты, заўсёды носішся па вёсцы разьвязаўшы язык.

— Сама гэткая, твая й матка...

— Цябе нябожчыца не чапае, каб ты не дажыла сёньняшняга дню.

На крык зьбягаліся кабеты ўсей вёскі. А Сідараха з Мікіціхай не сунімаліся.

— Багатырка, а так і глядзіш, каб чужое захапіць.

— А ты—галячка, твой і бацька жабраваў па сьвеце.

— Але не зладзейка.

— Што я ўкрала? Вось слухайце, маладзіцы, зладзейкай абзывае.

— А не злавіў цябе Янка ў вагурках летась?

— Скульле табе з Янкам хай сядзе.

— Хай табе й сядзе... каб ты і сесьці не магла,—ня вытрымала Янчаха.

— Ага, праўда вочы коліць.

— Шануючы сёньняшняга дню і гэтых маладзіц—паскуды вы абедзьві, зьмеі падкалодныя...

Лаянка сьціхала тады, калі пастухі гнаці на паўдзён скаціну і кожнай кабеце трэба было сьпяшыць хутчэй адчыніць хлеў, каб авечкі, альбо сьвіньні ня ўскочылі ў чужую шкоду.

... Так было і ў гэты дзень.

Затое вечар гэтага дню шмат чым адрозьніваўся ад астатніх вечароў, якія праходзілі ў Начанцаў і ва ўсей ваколіцы.

Як толькі зямля праглынула апошнія праменьні пякучага сонца і вечар павеяў прахалодай напоўненай пахамі мядовых красак, па усей ваколіцы зазьвінелі купальскія песьні. Яны зьліваліся з зыкамі скрыпкі і гармоніка, расплываліся па зялёным гаі і вёсках, а пасьля паступова дзесь далёка, далёка таялі на грудзёх палёў і лугоў.

Моладзь і маладыя кабеты схадзіліся ў гай на «Шырокія Пожні».

Зьбіраючыся ў невялічкія гурткі дзяўчаты і кабеты зноў разьлівалі гукі родных песень.

... Пятрова ночка
невялічка,
я маладзенька
не даспала—
шолкам кашульку
вышывала,
свайго мілога
паджадала.

. . .

А пад бярозай
нямецена,
ды пад кудравай
нямецена...

А ў другім месцы, ля разьведзенага вогнішча пад рогат гармоніка адбываліся скокі і песьні хлапцоў.

Крыху водаль, пад галінаватым ляшчынавым кустом на шаўковай травіцы ляжалі некалькі хлапцоў. Сюды яны прышлі не для таго толькі, каб паслухаць дзявочыя песьні і музыку, якая бязупынна рассыпала акорды.

Яны сышоўшыся скарыстоўвалі гэты вясёлы вечар для справы, наконт якой даўно ўжо была распачата падрыхтоўка. Пытаньні грамадзкага жыцьця для іх куды даражэй за ўсё тое, што адбывалася на «Шырокіх Пожнях».

Як і заўсёды, Ахрэм першы ўзьняў гутарку зьвярнуўшыся да хлопца з кудравымі як хмель валасамі.

— Ну раскажы, Трахім, як справы?
— Во, во, чаго ты дабіўся ў райёне і акрузе?
— У нашу карысьць, хлопцы...
— Давай хутчэй!!!

Разам усе падпаўзьлі на брусе бліжэй да Трахіма, які павольна апавядаў таварышом.

— Папершае:—даюць зямлю, якую і мы маем на мэце, у...

— У Казлоўцы?

— ... У Казлоўцы.

— А з крэдытам як?

— Адпускаюць.

— На якіх умовах?

— Крэдыт даюць доўгатэрміновы на жывёлу і насеньне.

— На будынкі-ж таксама патрэбен, на голае поле, брат, не сядзеш.

— Свае перавязём.

— Крані толькі, дык і рассыпіцца парахня гэтая...

— Наконт будынкаў сказалі такую рэч: карыстайцеся панскімі, а праз год—два дадзём крэдыт і на будынкі.

— А Маеўскага дзе ты падзенеш? на галаву-ж яму не сядзеш.

— От дзівак, Маеўскага-ж высялілі як быўшага абшарніка.

— Пад баком усё дзеецца, а ты, Тамаш, і ня ведаеш.

— А чорт яго душу ведае...

— З будынкамі таксама, значыцца, справы ня кепскія.

На хвіліну замоўклі, а пасьля зноў ціхая гутарка. Нямую цішыню парушыў Ахрэм запытаньнем да хлапцоў.

— А як, браткі, старыкі вашы, трымаюцца яшчэ, а мо' ўжо кулакі зьбілі на свой бок?

— Пакуль што трымаюцца!!!—у вадзін голас адказалі ўсе.

— Цяпер патрэбна яшчэ большая работа сярод беднаты, ато як даведаюцца заможныя аб нашых посьпехах, дык усе хітрасьці пусьцяць у ход абы толькі напаскудзіць справе.

— Работу трэба праводзіць ня толькі сярод тэй беднаты, якая ўваходзіць у арцель, але й нагогул сярод усей беднаты ў ваколіцы.

— Каб падтрымала.

— Так, каб падтрымала нас, а то сорамна будзе, калі ў самым канцы зьвіхнёмся.

— Бедната падтрымае, мы-ж таксама не багатыры, а такія-ж...

— Ну вядомая справа.

— Нам абы толькі халупы свае перацягнуць у Казлоўку, ды распачаць новае жыцьцё, а тады...

— Тады няхай сабе брэшуць хоць завыюць Пілімоны, Язэпы, Тодары...

— А зараз патрэбна, хлопцы, праца, ды якая яшчэ...

— Ты, братачка, Ахрэм, зноў пастаў пытаньне ў парт'ячэйцы, няхай дапамогуць сваім хлапцам.

— Во, воо... пастаў.

— Я й сам гэта думаю.

* * *

Няпрыкметна зара пераплыла на ўсход заставіўшы сьцежку чырвані на паўночным краю неба. Паветра стала сьвежае і прыемнае, а краскі яшчэ больш давалі мядовых пахаў. Халодныя кроплі расы ападалі на босыя ногі, а на траве ў гэты час клалася цёмназялёная сьцежка.

Гармонік у апошні раз захліпаўся ў гаі і ў тахт дробнай полькі вырываліся з грудзей хлапцоў вясёлыя прыпеўкі.

Ты дзяўчына балаўніца—
не зарублена спадніца,
купі нітачак маток—
зарубі хоць падалок.
. . . . . . . . .

...Дзяўчаты і хлопцы разыходзіліся дамоў застаўляючы «Шырокія Пожні» адзінотай.

---

III

Самыя рознастайныя чуткі хадзілі па Начанскай ваколіцы наконт арганізацыі арцелі. Калі весткі перахадзілі з аднэй вёскі ў другую, да іх прыбаўляліся ўсё новыя і новыя бяссэньсіцы.

Кабеты шапталіся выганяючы кароў у поле:

— Чулі?..

— Што?

— Камунію-ж арганізоўваюць...

— Усіх, значыцца, уместа баб і мужчын зганяць будуць?

— А як ты думала? Уместа.

— Кажуць, агульныя і дзеці будуць...

— Ну вядома, на тое-ж і камуніяй завецца ўсё гэтае...

— Ай-яй-яй... вось дажылі, мае вы сястрыцы...

— Канец сьвету і больш нічога.

— Відаць, што канец ужо...

І кожны дзень мужчыны і кабеты абгаварвалі, спрачаліся, лаяліся; дамагаліся знайсьці якія-небудзь шляхі к таму, каб пазбавіцца ад павісшай над вёскамі «небясьпекі».

А заможныя падлівалі масла ў вагонь.

А заможныя праводзілі патрэбную для сябе работу сярод бедняты. Сваю работу яны ўвязвалі з практычнай «дапамогай» беднаце—давалі насеньне на адработак, коняй запахаць зямлю...

Невялічкай парт'ячэйцы цяжка было весьці барацьбу за калектыў. Тут патрэбна была штодзённая ўпартая работа кожнага члена ячэйкі дзеля таго, каб бедната перамагла.

* * *

Позна ўвечары Начанцы ішлі з сенажаці дамоў.

У гутарцы пра вясковыя справы—зноў усплыло тое-ж самае пытаньне, па якім сёньня раніцай спрачаліся на лугу.

— ... Якое можа быць сумеснае жыцьцё, калі, скажам, бацька з сынам дзелюцца, брат з братам, а тут...,—цягнуў таўсты у крамнай кашуле.

— Ня жыцьцё, а пакута, вось што,—хтосьці дадаў.

Усе застанавіліся ў канцы вуліцы і пачалі закурываць, а таўсты далей хацеў гаварыць, але раптам спыніўся, калі ўбачыў, што з-загібу вузенькай дарожкі, якую сьціскала высокай сьцяной жыта, вынырнулі дзьве чалавечыя постаці.

Ішлі: Ахрэм і Макар.

Дайшоўшы да вяскоўцаў, яны застанавіліся. У крамнай кашуле адразу перайшоў на другую тэму.

— Без пары забялелася жыта, ня будзе сёлета ўмалоту,—пачаў ён нібы зварачваючыся да прышоўшых.

— Што-ж нам тады казаць, калі ты й то плачаш ужо,—зрабіў заўвагу Ахрэм.

З натоўпу пачуліся галасы:

— Табе, Пілімон Іванавіч, няма чаго непакоіцца на дваццаці дзесяцінах пры чатырох едаках.

— Вядомая справа...

— На вузенькай палосцы не раскашэлішся дужа...

— Яе, брат, у першую чаргу і сьпёка абірае і розная няўрода...

— Выпашка ня тая, што на шырокай.

— Як ты яе добра выпашаш, калі няможна павярнуцца з бараной.

— А каля мяжы застаецца цаліна.

У час усей гутаркі Пілімон маўчаў і толькі пераступаў з аднаго месца на другое нэрвова перабіраючы тлустымі пальцамі пасмы шырокай барады. Але на яго ніхто не зварачваў ніякай увагі, бо з кожнай хвілінай гутарка аб вясковым жыцьці паглыблялася, прымала інтарасуючы характар.

Да касцоў у канец вуліцы сабралася ўся вёска.

... Спрачаліся.

— Дык вось, я й кажу, што адзін выхад з становішча, гэта...,—цягнуў даўно пачатую гутарку Ахрэм.

— Ведаем, брат, куды ты гнеш.

— Хахлы зьвязаць хочаш мужыкам камуніяй сваей.

— Як зьвязаць?

— А так, што бацька з сынам дзелюцца, а ты...

— Сагнаць хочаш у супольнае жыцьцё чужых, каб пасьля біліся.

— Пагібель раіш, а ня жыцьцё.

— Якую пагібель? што ты дзядзька, Пракоп, бязглузьдзіцу мелеш.

— Гэта ты бязглузьдзіцу мелеш, калі дамагаешся гвалтам у камунію загнаць.

— Хто цябе гвалтам гоніць? Арцель, альбо камуна арганізоўваецца толькі з дабраахвотных.

— Ну і шыш табе будзе, калі дабраахвотна толькі.

— Чаго там шыш, знашліся-ж вось, якія пажадалі арганізавацца.

— Будзе карысьці з гэтых гультаёў, што з казла малака.

— Сам ты гультай! — крыкнуў з натоўпу, а пасьля праціснуўся наперад у падрыпаных саматканых портках і дзюравай палатнянай кашуле праз дзюркі якой пазіралі плямы загарэлага на сонцы цела.

Ён усё яшчэ не супакойваўся і пакрыўджана даказваў натоўпу, што ён не гультай, а толькі бедны.

— Табе добра цяпер разівацца на пятнаццаці дзесяцінах пры шасьці душах, а як мне жыць з такой-жа сям'ёй на дзьвюх дзесяцінах?..

— Што я ў цябе адабраў, ці што?

— Не адабраў, а захапілі ўсю панскую зямлю вось такія крыкуны як ты.

— А ты, значыцца, праспаў?

— Дзе-ж ты быў тады? У цяньку ляжаў схаваўшыся ад сонца?

— Што вам вочы былі вымершы, ня бачылі дзе быў я?...

— Дзе?

— Ну скажы.

— Ты, Сяргей, маўчы з гэтым,—умяшаўся рыжабароды ў белай саматканай кашулі,—абзываць гультаямі людзей, якія б'юцца як рыба аб лёд, працуюць, але бедныя, гэта, брат...

— І ты, Піліп, у іхнюю дудку граеш?

— Я па справядліваму... Я-ж не бедняком лічуся ў Начы, а таксама за арцель стаю, бо якое гэта жыцьцё, што заўсёды спрэчкі, лаянка з-за мяжы, альбо з-за...

— Ну, калі ня бедны яшчэ ты, Піліп, дык будзеш гэткім.

— Будзеш...

— А нічога... ось пабачым, хто зьбяднее: ці мы з Анухрэем у арцелі, ці вы на трохполцы.

— Ты хочаш быць разумнейшым за свайго дзеда і бацьку...

У падрыпаных партках па ранейшаму ня супімаўся.

— Эх, гарлапаны вы!.. каб пашлі тады ўсе ў кусты, як сыны вашы, дык скулу-б вы атрымалі, а не зямлю; быў бы і цяпер гаспадаром Забела, а ня Начанцы... Нябось, тады ўхіляліся каб не панюхаць пораху і сьвежага чалавечага мяса, а цяпер вы войстры...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Была позная ноч і сівы туман клубком каціўся з поля ў самую вуліцу. Хлапчукі даўно ўжо праімчаліся з конямі па вуліцы на начлег і цяпер звонкія іх галасы сьмеху і гукі жалейкі ручайкамі разьліваліся па хмызьняку.

* * *

— Як добраму суседу раю табе, Гарасім... Пасьля і рад-ба быў зьвярнуцца назад, ды позна будзе.

— Цяжка, Пілімон Іванавіч, так жыць, як я цяпер...

— Гм... цяжка кажаш?

— На карову вось крэдыт узяў, а аддаць няма з чаго.

— А ўсё, што не паслухаў мяне.
— Як?
— Казаў тады некалькі разоў: бяры, Гарасім, малако для дзяцей у мяне, не зьвязвайся з крэдытам, а ты не паслухаў разумнай парады.
— Заўсёды не набярэшся ў чужых, ды і ўсёроўна для мяне гэта-б каштавала: ня грошы, дык...
— Глупства, неяк-бы разабраліся жывучы ў суседстве... мо' калі пакошваў-бы, ці баба дапамагла-б дзянёк які жаць...
— Зноў-жа, з хлебам кожную вясну тугоўля.
— А скажы: я табе, Гарасім, не дапамагаў?
— Дзякую, даваў, ня буду ілгаць...
— Ну во.
— ...Але-ж за кожны пудзік, Іванавіч, надта цяжка пасьля адрабляць.
— А ты мо дарма хацеў?
— Гэтага ніхто ня кажа.
— Я, брат, нікому за дзякуй толькі не даю... з мяне і так досыць, што я шмат каго выручаю ў вясну за невялічкую адплату... з неба-ж мне ня сыпецца... усё, можна сказаць, сваім мазалём здабываю... працую, можна сказаць.
— Наконт гэтага я таксама нічога, а толькі вось адносна таго, каб ня йсьці ў арцель, дык...
— Будзеш каіцца...
— Ці прыдзецца толькі... абдумаў як належа.
— Кепска, Гарасім, абдумаў, дзеці будуць праклінаць цябе.
— Ну чаго мне шкадаваць у Начы? Ці-ж гэта жыцьцё на дзьвюх з паловай дзесяцінах з шасьцю душамі? А ў Казлоўцы зямля добрая і даюць яе па норме.
— Дзівак... пры земляўпарадкаваньні ты-б мог у гэтай самай Казлоўцы атрымаць добры хутарок.

— Як-жа ты атрымаеш, калі, скажам, уся зямля аддаецца пад супольную апрацоўку

— Этт... Не ляжала-ж-бы зямля памётам каб умовіліся ўсе, ды й не пашлі ў супольнае жыцьцё... далі-б хутары.

— Знашліся-б людзі бяз нас і арганізаваліся-б, а мы...

— А вы й не каіліся-б.

— Паспрабуем новага жыцьця.

— Пагібель, братцы, а ня жыцьцё і, ты, Гарасім, падумай яшчэ добра... Шкода мне цябе, добры быў сусед, а справу задумаў...

— Каб і хацеў цяпер назад дык нельга ўжо.

— Чаму?

— Хату-ж і хлявы перавёз ужо...

— Ну і што?

— Ды тое, што, каб і хацеў іх зноў на старое месца, дык ня зьлепіш з гэтага гнільля нічога, ад кожнага амаль бярна адваліўся вугал.

— Гэта нічога... Калі-б да справы, дык я першы дапамог-бы пабудаваць хату: і грашмі, і каня даў-бы... неяк пасьля разабраліся-б жывучы ў суседстве.

— Не ўжо, Пілімон Івановіч, назад ня думаю зьвярнуцца.

— Шкода, Гарасім, мне цябе, шкода...

---

## IV

Лета прашло так хутка, што ніхто ня прыкмеціў, як падкраліся асеньнія дні з даўгімі вечарамі. Заціх людзкі гоман на палёх і лугох і, здавалася, што вёскі зусім замёрлі на цэлы год. Але не. Клопаты былі перанесены з поля ў самую вёску і таму ўсе спрэчкі сялянскага быту ня так хутка да-

насіліся ад аднэй вёскі да другой, як гэта было ўлетку.

Зусім іншы малюнак жыцьця назіраўся ў Казлоўцы. Тут цяпер толькі разгортвалася жыцьцё людзей, якія сышліся з разрозьненых дробных гаспадарак для супольнага паляпшэньня свайго дабрабыту, для супольнай працы.

Упяршыню ўзяўшыся за такую вялікую справу, ды яшчэ са ўсялякімі перашкодамі на распачатым шляху, кожны з іх быў перапоўнен клопатамі так, як ніколі ў сваім жыцьці.

Арганізаваная бедната і серадdespite сумелі крыху адрамантаваць некалькі старых будынкаў і ўжо звезеная з вузенькіх вясковых яшчэ палосак збожжа знаходзілася ў агульнай вялікай пуне, пакрытай новай страхой.

Ахрэм часта гаварыў сваім таварышам, калі толькі браліся за новую работу па гаспадарцы.

— Цяжкі час, браткі, выпаў нам дзеля пачынаньня супольнага жыцьця; пасьля нас куды лягчэй будзе арганізоўвацца людзям, таму, што будзе ўжо ім наш прыклад. А пагэтаму на нас ускладаецца яшчэ больш адказнасьці за посьпех тэй справы, якую мы распачалі.

... А заможныя ўсё яшчэ ня кідалі свае замахі падарваць новаму жыцьцю ў Казлоўцы. Гэтае пытаньне яны кожны вечар абгаварвалі на сваіх таемных зачыненых сходах. Вышуквалі новыя шляхі...

У вадзін з такіх вечароў, калі ўсе Начанцы спалі, у Пілімонавай хаце ракой ліўся самагон. Вакол засланага белым абрусом стала, на якім стаялі бутэлькі і розная яда, сядзела пяць мужчын з расчырванеўшымі тварамі.

— Яшчэ, Язэп Міронавіч, ня позна... П-пашкодзіць м-можна,—чуць пераварачваючы язык упэўняў шырокаплечы ў вышыванай белай кашуле.

— Вядома, што яшчэ ня позна,—пацьвердзіў у жалетцы з гадзіньнікам на грудзёх.

— Хоць і ня позна, але час ня трэба марнаваць, а то як умацуецца цяжка будзе...

— Тады зусім не магчыма б-буд...

— Так, так...

— Цяпер пакуль што мы не адны, з намі і ўся амаль Нача, а праз год—тады ўжо, брат...

— Іх, Хведаравіч, і цяпер боязна скарыстаць для якой небудзь справы, бо можна так уляцець, што...

— Скарыстаць нельга, гэта вядома.

— Самім патрэбна...

— Самім...

Доўга яшчэ цягнулася п'яная гутарка. Доўга спрачаліся па складаньню пляну агіднай справы. А калі ўсё скончылася і адпраўляліся дамоў хтосьці прахрыпеў п'яным голасам:

— Спадзяёмся, Тодар Апанасавіч, што...

* * *

Цёмная асеньняя ноч праглынула ўсё, а неба плакала губляючы дробныя але халодныя кроплі дажджа ў пажоўклай траве і зялёнай руні.

Ахрэму не спалася...

Рой заклапочаных думак па гаспадарцы не давалі заплюснуць вочы. Ён некалькі разоў падымаўся з пасьцелі, падыходзіў да вакна і праз мокрыя шыбы ўглядаўся ў цёмнае надвор'е. Урэшце накінуўшы на сябе сьвітку вышаў з хаты дыхнуць сьвежым паветрам.

— Мо пасьля сон возьме,—падумаў ён ступаючы босай нагой на мокрую халодную зямлю.

На дварэ ўсё яшчэ як праз сіта сыпаў дробны дожджык.

Ахрэм абапёрся абедзьвумя рукамі аб тынок і пачаў прыслухоўвацца ці чуваць коняй, якіх увечары заставілі начаваць ля гумна. Паранейшаму было ціха і сумна, толькі «Жучка» не па звычайнаму кідаючыся ў бок гумна парушала цішыню.

Ахрэм з большай яшчэ напружанасьцю пачаў прыслухоўвацца і ўглядацца ў цемень начы. Чуўся толькі брэх сабакі, ды ціхі шум дажджу.

Праз некаторы час штосьці блїснула ля пуні.

— Воўк крадзецца да коняй, трэба захапіць стрэльбу, ды й хлопцаў пабудзіць,—з такімі думкамі Ахрэм хуценька накіраваўся ў хату.

А калі праз некалькі хвілін усе мужчыны выхадзілі на двор—па складзенай у канцы пуні леташняй жытняй саломе расплывалася чырвонымі языкамі полымя, ад якога мільгатнула чалавечая постаць. У сьлед постаці пачуўся дарэмны стрэл.

Маланкай рынуліся ўсе к пуне і пачалі разцягваць ваўсе бакі аблітую газай салому. Пагусьцеўшы дождж дапамагаў зьнішчаць агідную справу...

— Вось, брат, які тут воўк...
— Двуногі...
— Не ўдалося сволачы.
— Перашкодзілі.
— Ы-ых каб-ды папаўся...
— Мала-б ня было паскудзе.

Дагадваліся, хто-б гэтае мог зрабіць.

— Чакайце, хлопцы, злачынец вядом, я вось ашчупаў гляк ад газы, з якім калісьці хадзіў у капэратыў за газай, калі быў парабкам у Тодара,—

крыкнуў малады хлапец затаптваючы босымі нагамі апошнія іскаркі ў саломе.

— Дык гэта значыцца ён?..

— А вы думалі хто?

— Во агідная душа...

— Збожжа хацеў спаліць, брыдота.

— Добра што засьпелі.

Хацелі ўжо ісьці ў хату, але Ахрэм прыпыніў.

— Коняй, браткі, штосьці ня чуваць...

— Мо' сагнаў куды?..

Усе рассыпаліся ўпоцемку і праз некалькі хвілін зьбегліся на старое месца.

— Так і ёсьць, сьпёр сволач.

Крыху пастаялі моўчкі, нібы чакалі чаго, а пасьля зноў цёмная ноч схавала кожнага паасобку.

— Ы, бандыт пракляты, зусім з ног хацеў ссадзіць,—лаяўся хтосьці, калі знашлі коняй зачыненымі ў пуне.

* * *

... А на другі дзень Начанцы глядзелі праз вокны, як вялі арыштаванага Тодара.

---

V

Шыбка йшлі дні, месяцы, а з іх складаліся гады...

Дні ўнасілі з сабой частку людзкіх клапот, а замест іх кожны новы дзень прынасіў людзям усе новыя і новыя клопаты. . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Тры гады прашло.

Казлоўскай арцелі ішла чацьвертая вясна.

За гэты час шмат чаго зьмянілася ў Казлоўцы, Начы і ва ўсей ваколіцы. Зьмяніліся настроі, погляды людзей на жыцьцё...

... Усе рыхтаваліся да сустрэчы веснавой сяўбы.

Сяляне ў вёсках спрачаліся наконт пасеву лёну, канюшыны, караньплодаў; чысьцілі насеньне, здабывалі штучныя ўгнаеньні.

Начанцы больш усіх абгаварвалі пытаньне сяўбы. Кожны з зайдрасьцю ўказваў на тых, хто вышаў з вёскі і зараз жыве ў Казлоўцы.

— Як не кажы, а пашырыць засеў лёну трэба ў гэтым годзе,—зазначаў стары Кандрат на сходцы, калі аграном паставіў пытаньне аб падрыхтоўцы да сяўбы.

— Наконт гэтага і гутаркі ня можа быць, трэба...

— Во глядзі якія грошы пабралі ў мінулым годзе за лён нашы арцельныя.

— О-г-о-о...

— Ім і тавары ў першую чаргу...

— Раз яны, скажам, фабрыцы, дык і фабрыка ім.

— Так яно і правільна—мы гораду, а горад нам.

— А як канюшына з караньплодамі будзе?

— Таксама патрэбна.

— Ты, Антось, з гэтым маўчы, дзе ты будзеш сеяць?

— Гэта табе не Казлоўка, дзе шэсьць палёў.

— А што?

— Ды тое, што на трохпольлі ня вывернешся са ўсім гэтым.

— Ці ня думаеш ты, Архіп, памерці на трохпольлі?!...

— Людзі вось не такую справу зрабілі, а ты..

— Праўду кажаш, Барыс!

Сход зашумеў.

Ня чутна было якія хто ўносіць прапановы па ўзьнятаму пытаньню. І толькі праз паўгадзіны, агранам крыху ўсіх супакоіў.

Пасьля зноў спрэчкі.

— Землякарыстаньне трэба зьмяніць, от што... а інакш...

— Так...

— Ты, Даніла, не такай... разьбярыся ў чым справа, а тады...

— А чаго там яшчэ ..

— З межамі як будзе—я ў цябе пытаю?

— От дзівак... па баку іх к ядронай...

— Гэта, значыцца, старынныя, бацькоўскія... не-е...я ..

— Ну дык і што-ж там такое?

— Кінь, Барыс, тлумачыць!..

— З межамі трэба разьвітацца.

— Правільна!..

— Тады можна вымяркаваць і пад лён, і пад канюшыну і для кораньплодаў можна будзе знайсьці месца.

Пасьля доўгіх яшчэ спрэчак і абмеркаваньняў, у якіх асабліва горача выступалі Пілімон і Язэп супроць нарушэньня старых межаў, Начанцы большасьцю галасоў пастанавілі: «У гэтую-ж вясну перавесьці зямлю на шматпольны севазварот і ўвесьці пасеў канюшыны і кораньплодаў, пашырыць плошчу пад лён».

... А ў Казлоўцы кожны дзень сялянскі кірмаш. З вёсак прыяжджалі чысьціць і абменьваць на лепшыя сарты насеньне.

... А ў Казлоўцы жыцьцё біла крыніцай.

* * *

Чэрвеньскі вечар купаўся ў пахах цьвітучага бэзу і красак... А неба—падпераазаўшыся з захаду малінавай зарой—углядалася на зямлю нязьлічоным мноствам ясных зор. Неяк ня верылася, што сонейка схавалася да самай раніцы; здавалася, што яго на хвіліну толькі затуліла невялічкая хмарка, якая зараз-жа расьсеіцца і тады зноў гарачыя косы праменьняў спусьцяцца на палі і лугі.

Асабліва ў гэты вечар было весела ў Казлоўцы.

Вясковая моладзь, якая прыходзіла слухаць радыё—разыходзілася дамоў пад акорды гармоніка і сьпевы заўзятых камсамольскіх песень. Гэтыя песьні надавалі бадзёрасьці, імкненьня ў нязьведамыя далі, яны вабілі да сябе гэтыя песьні, уцягвалі ў прагнасьць да жыцьця, да змаганьня. Хацелася пяяць, хацелася ўліцца ў гэтую вясёлую грамаду і разам плысьці па бязьмежна-шырокіх абшарах вольнага краю.

Зьвяртаючыся з поля трактар абуджаў вёскі сваім звонка-сталёвым рогатам, які зьліваўся з акордамі гармоніка, песьняй моладзі і водгульлем рассыпаўся па кудравым гаі і усей ваколіцы.

Ахрэм і Макар ішлі ціха на сустрэч стальному каню.

— Ураджай павінен быць сёлета, — зазначыў Ахрэм зрываючы колас у жыце.

— Во, столькі ўкінулі угнаеньня, ды каб ураджай ня быў добры,—пацьвердзіў Макар.

— А вырабка зямлі што знача...

— Вядома... гэта, брат, табе ня конь, а...

— Сіла, брат.

— Мы што апошнюю рату крэдыту выплачваем сёлета?
— За трактар застаецца толькі.
— Яшчэ трэба ўзяць.
— Куды гэта табе?
— Абора-ж новая патрэбна?
— Патрэбна.
— Ну от...
— Абыйдземся пакуль што на гэтую патрэбу сваімі сродкамі.
... Ішлі ўдыхаючы сьвежае паветра.
Было прыемна і радасна.

1928 г.



ЯНКА ВІДУК.

# Зіма

Ну, от ізноў зіма.
Пушыстыя сьнягі
завеялі
далёкія палянкі.
Дарога вузкая
размашыста бяжыць
і лёгкія
бягуць са скрыпам санкі.

Ня кланяйся,
бяроза, мне ў прывет,—
дай я табе
зьніму з прыветам шапку.
Я ад‘яжджаў—
ты асыпала ўсьлед
сваіх лістоў
падсохшыя аладкі.

Цяпер і ты
ня йначай падрасла
і можа многа
нават пасталела
фатою белаю
свой абцягнула твар
і хвартушок
падпераазала белы.

Ну, што-ж, хавай
расьніцы томных воч;—
нават і я
на шмат перамяніўся.
Раўніны мілыя
ад вас уцёк я проч,
каб даражэй
маглі вы мне прысьніцца.

Сьнягі, сьнягі.
Разьбежыны дарог.
Б'юць капыты
па лашчанай хрусталі.
— Эй,добры дзед,
які гэта сьлядок
і мы цяпер
куды гэта папалі?

— А вам куды?
— Нам трэба ў Кулікі.
— Эге, сынкі,—
ня гэтае вам трэба,—
і сухаваты
палінялы кій
канцом паказвае
засмужаны край неба.

— А ну, гняды!—
і зноў прастор зьвініць—
ўзьбівае шкло
дарогі капытамі.
А ночка ўжо
запальвае агні,
развешвае
зарніцы кутасамі.

Бягуць кусты.
Бяжыць насустрач ноч.
Мінаем лес.
Мінаем пералесак.
А наддалёк
агнямі воўчых воч
мігаюць вокны
хаты сельсавету.

Прыехалі.
Працяглы скрып дзьвярэй—
і валенкі натоптваюць падлогу.
— Скажэце—дома
старшыня Карней?...
А мы да вас
ледзь—ледзь нашлі дарогу.

— Ну, то і пашлі.
Скідайцеся-ж, браткі,
ды грэйцеся
мароз бо ніштаваты.
А, ты, старая,
кінь свае маткі,
ды падагрэй там
кавы, ці гарбаты.

— Ну, як-жа там
у горадзе?
— А так—
зіма з марозамі,
бываюць і завеі.
— Хе-хе! У нас
буйнейшай пекната—
такія гурбы,—
толькі паглядзелі-б.

На печы дзед
мармыча нам у тон,
паходжвае
ў мыцельніку рудзька.
Старэнькая
гудзе верацяном,
часамі слухае
і забаўляе ўнучка.

І ахапіў
сямейны, цёплы круг
людзей чужых,
але сваіх і мілых...
— Гады праз два,
пабачыце—куплю
на сельсават
фардзонскую кабылу!...

І старшыня
сярэдні старычок
ў гарачай гутарцы
размахвае рукамі.
На покуце
храпе і дрэмле кот,
а за вакном
заходжваецца замяць.



Хв. БУЖАН.

# З гарадзкіх матываў

Калі праз вокны прасочыцца дзень
ды першы гудок прагудзе—
каменны грукат
бруку
важэнным молатам
сну выб'е золата.
На вуліцы
між квятных радоў
душна, млосна
у вачох мітусіцца
ад павольнага зыбаньня галоў.

* * *

Стромкіх топаляў срэбра з іржою,
пад каронай ня вабная цень...
Выдаецца гарачы дзень,
бы са строгай вайсковай зброяй...

А калі у грудзёх ажывуць
сьпеваў родных з палёў адгалоскі...
Быццам дальнія гоні—палоскі
да сябе заклікаюць, завуць.

Хочаш бегчы, а штосьці трымае,
нехта супроць ў самім-жа сабе...
Гарадзкі так-жа моцны напеў,
толькі водгукаў лесу ня мае.

---

## Возера сьпіць

Возера сьпіць сінявокае,
дрэмле шумлівы чарот...
Толькі глядзіцца у неба глыбокае
вечна зялёны асот.

Лодка пад бераг у сітнік зашылася,
а пад вярбою—рыбак...
Нават, асіна і тая стаілася,
быццам жахлівы жабрак.

Возера сьпіць... Ні маршчынкі на твары,—
ціхая, сонная гладзь...
Часам нагадвае дзіўныя чары,
якіх не схавае імгла.

Бачыш бяздоньне яго сінявокае,
а над вадою—чарот...
Толькі глядзіцца ў неба глыбокае
вечна зялёны асот...

## ПЯТРУСЬ БРОЎКА.

* * *

Гудок прарэзьліва гудзіць...
ты-ж выйдзі, любая, ка мне
я твой паслухаць хачу сьмех,
абняць з табой палі, сьнягі,
паслухаць, як гудок гудзіць...

Там за варштатам ўсе яны...
усе аб кім я ў ночы сьніў.
Хто галавы ды ня схіліў
ад панскай кулі, ад карцечы...
Цяпер за працаю яны.

І ты там, любая... ты там!
дзе пасаў воркат, дзе агонь
сталш бадзёрай, маладой
хоць у вушшу машынны гам,
хоць пот ліе... а ты ўсе там.

І я за гэта так люблю
твой пругкі стан і сіні зірк,
маю душу ён маладзіць.
Таму прашу... прыдзі ка мне
я твой паслухаць хачу сьмех.

1927 г.

ТАРАС ХАДКЕВІЧ.

# Брату

Ты прыехаў ка мне здалёк
з тым-жа шчыра-худым аблічам...
Кажаш: дальняя шыр палёў
у абнімкі жытамі кліча.

Вечарамі круты туман
абдымае хусьцінкай долы.
Рвецца слоў агнявы узмах,
як ігрышча спраўляе
моладзь.

Гарманісты кідае тон,—
сэрца гімны жыцьцю складае.
За гарой векавы прастор
так палае нязнанай дальлю.

Хай!—Было шмат навін, падзей,
апавіты вясны каханьнем
і у вас яснавокі дзень
камсамолам цьвіце па хатах.

Тут-жа грукат мільёну ног
ды гудкі заравых заводаў.
Ма за тым я ня так даўно,
палюбіў гарадзкія звоны.

Кінуў вёску, загонаў сінь,
дзе калісьці каровы пасьвіў,
каб набрацца інакшых сіл
для змаганьня
за долю—шчасьце.

Не адзін я, а шмат такіх—
рушым нівам машынны лёскат...
Не схавае ад нас блакіт
нязвычайнай вясны
усплёскі.



Анд. БУРЛІВЫ.

# Мы чужыя

Я ўспамінаў цябе ня раз.

Ня плач.

Твая крыўда, што я запамятаў цябе, дарэмна.

О! не.

Я доўга хаваў у сабе тваю памяць і часта ўспамінаў. Тое, што напісана кроўю сьціраецца цяжка. Але ты стала другой для мяне, гэта праўда.

Я зараз раскажу табе, аб тых гадзінах, калі асабліва ясна, да болю ў мазгох ўспамінаў цябе.

Тры разы.

Так мала і так памятна.

* * *

Першы раз.

Я сядзеў на наглядальным пункце і карэктаваў агонь нашых гармат.

Была ноч.

Ні месяца, ні зорак. Яны і непатрэбны былі. Шрапнэль была мне маланкай. Чырвонымі выбухамі сьвяцілі гранаты.

Да сьмерці хацелася курыць, а было няможна.

Мы былі пад абстрэлам і закурыць—значыла дарэмна падстаўляць галовы.

Наперадзе быў польскі ланцуг. Займаў суседнюю вёску.

Польская артылерыя шукала нас. Шукала дарэмна, шчупаючы балота снарадамі.

Твой брат быў там, на іх баку.

Я гэта ведаў.

Раніцой перабежчык (у нас іх былі сотні) сказаў хто камандуе батарэяй і назваў яго прозьвішча.

Яму хацелася злавіць мяне ў вілку сваіх стрэлаў.

А нягодныя выбухі агню з гармат давалі нам магчымасьць прыстрэльвацца.

Тады, як ён стараўся скасаваць маё жыцьцё з кнігі існуючага, я ўспомніў цябе.

Ты памятаеш?

У цябе мы пазнаёміліся. Ён многа казаў аб Ібсэну, Андрэеву і ў якасьці апошняга аргумэнта прыводзіў Лабрыолу.

Я крыва ўсьміхаўся.

Здавалася дзікім.

Я ня люблю містыкі, ня веру ў мажлівасьць аднаго чалавека перавярнуць зямлю і зусім не пакланяюся яго апосталу.

Ён казаў, што я барбар, а мне было ўсё роўна.

Зараз я падумаў: там пачатая спрэчка перанесена вырашацца сюды, чыя будзе праўда?

Мы стралялі і стралялі. Старэнна сьпявалі снарады цяжкіх гармат, ад злосьці захліпваліся трохдзюймоўкі.

Загад па тэлефону «спыніць агонь», уцішыў страляніну.

Мы сумуючы чакалі золаку. Раніцай, па дарозе ў штаб дывізіі, куды мяне выклікалі, я спаткаў партыі палонных.

На чале, ў форме польскага афіцэра ішоў твой брат.

Я зразу спазнаў яго.

Яшчэ-б...

З прыемнасьцю падумаў, што тут яму некалі будзе спавядаць Лабрыолу і паскакаў далей.

У штабе мне сказалі, што ноччу наша кавалерыя з тылу захапіла польскую батарэю (дзе быў твой брат) цалкам.

Гэта раз.

Няўжо мала?

Мае ўражаньні былі моцныя.

Твае зараз таксама?

Спрэчка скончылася ў маю карысьць.

Ты ведаеш?

Пасьля яго расстралялі. Ен быў надта шкодны і адпусьціць яго было немагчыма.

На допыце сказаў:

— Дуракі! Мая думка свабодна. Вы ня прымусіце мяне думаць інакш.

Яго ня сталі і прымушаць, а адпусьцілі ў Нірвану (самае лепшае становішча па яго першых словах).

Так проста.

Жалезны загад жыцьця.

Гэта першы раз, калі я ясна бачыў цябе.

Тады ў спрэчках з братам ты бараніла мяне і казала што будучына памірыць нас.

Яна паказала адваротнае.

* * *

Другі раз. Неабходна было ведаць сілу быўшых супроць нас палякаў.

Простая разьведка ня прыносіла ніякіх каштоўных зьвестак.

Прышлося ўжыць другія сродкі. Я ведаю па польску і згадзіўся іcьці дабраахвотна.

Мы пераапрануліся польскімі ўланамі. Было сьмешна адчуваць на плячах пагоны.

Звыкаючыся з адзеньнем польскага афіцэра я хадзіў бы на маскарадзе, пакуль на мяне не насварыўся старык, камдыў.

Выехалі мы гуртком, з дакумантамі забітых нядаўна.

Лесам заехалі ў тыл, папалі на дарогу і яна прывяла нас к штабу 3-й польскай дывізіі.

Стары, радавы маёнтак.

На кожным кроку чуваць паважнасьць гаспадара.

І дошчачка з надпісамі: «LUBOWO», у ангельскім газоне перад пакоем, у сталетнім парку з сажалкай з карасямі.

Мы папалі як раз на баль. Па глухіх, варожых нам карыдорах разносіўся гул аркестру.

Скакалі заўзята.

Малады, ксёндз, добра выпіўшы скакаў гапака (ён пасьля перабег да нас кінуўшы пялякам сутану, а ўзяў дзяўчыну).

Яго гульню пакрылі воплескамі. У нацыянальным убраньні скакалі мазурку.

Я ўспамінаў, што раіў мне дырэктар, як трымацца ў грамадзе і прасіў прабачэньня дзе патрэбна і непатрэбна.

Тады я ўбачыў цябе.

Ты была ў кутку, каля вялізарнага кактуса. Не адна.

Я стараўся трымацца далей (ня крыўдзіся) але гэта было лішнім. Ты мяне не пазнала.

Ускінула погляд і перавяла далей. Жандарскі паручнік казаў табе штось вясёлае і ты сьмяялася.

Я таксама хацеў сьмяяцца. Хацеў зарагатаць на ўсю залю дзікім рогатам звар'яцеўшага. Хацеў толькі хвіліну.

Хутка прайшло.

Мы не ў забаве паехалі. П'яная кампанія афіцэраў нам усё разбалтала.

Я нават узяў з сабой палявую сумку маёра, як быццам сваю. Яна многа дапамагла нам.

К раніцы баль скончыўся і мы ізноў былі ў маёнтку, але ў другіх ролях.

У ночы перарэзалі правады, паднялі страляніну, пачалася паніка і мы ўляцелі ў маёнтак.

Мала ўцякло, большасьць засталася.

Стаялі ў цельным, трасьліся—ім далі апрануцца.

Я пазнаў жандарскага паручніка. Стаяў зялёны і зубы яго ляскалі.

У маёра я папрасіў сваю сумку. Мне стала вясёла.

Я ўбачыў у яго поглядзе цэлае мора нянавісьці.

Сьвежае ўражаньне ночы не гублялася.

Я ўспамінаў цябе.

Успамінаў гледзячы на паручніка, на пана, на маю сумку.

Было радасна.

Чаму ты ад'ехала раней?

Чаму ты не магла падзяліць маей радасьці?

Я так жадаў гэтага.

* * *

Трэці раз і апошні.

Болей не ўспамінаў. Нічога не засталося. Усё прашло, каб ніколі не зьвярнуцца.

Я атрымаў ад цябе ліст. Не адказваў?

На-вошта?

На канвэрце было «WARSZAWA». Ты пісала што жадаеш бачыць мяне, засумавала па родных мясцох і разам захаплялася нечалавечым спрытам жанглёра, дона-Антоніо.

Ліст прынесьлі ў перапынку на сходзе.

Стаяла важнае пытаньне і мы доўга спрачаліся.

Вышлі, закурылі.

Я прачытаў ліст, успомніў цябе ў апошні раз, вельмі слаба і палажыў яго ў кішэнь.

Ты была ў вачох толькі момант. Доўга некалі.

Мы абгаварвалі пытаньне ў перапынку гурткамі.

На мяне наваліўся мой сябра (а цяперашні праціўнік) і са ўсей паўднёвай гарачнасьцю пачаў разьбіваць мае даказы.

Я сачыў за ім, баючыся прапусьціць слова.

Усе-ж-такі патрэбна адстаяць сябе.

Ты адышла.

Адразу стала далёкай

Больш я не ўспамінаў

* * *

Зараз ты гасьціш у Беларусі, у цябе францускі пашпарт і віза нашага консульства.

У мяне разьліковая кніжка прадпрыёмства.

Мы вырасьлі абодвы.

Ты з такой зацікаўленасьцю глядзіш на мяне думаючы найсьці ва мне зьвера.

Ня знойдзеш.

Я той самы чалавек, якога ты кахала.

Толькі мой даўнейшы шопат стал галосным.

Бачыш?

Во і Анунцыо. Я магу падараваць табе на ўспамін.

Твой каханы.

Пясьняр паўднёвага запалу і... фашысцкіх гвалтаў.

Калі небудзь яго праглядваю, але заўсёды накрываю Маякоўскім.

Нашы шляхі разышліся.

Мы думалі на час, а вышла назаўсёды.

Ты тады плакала.

Мне было шкада цябе.

Зразу ты адыйсьці не магла. Адыйшла пад уплывам успамінаў, аб якіх я расказаў табе.

Зараз мы разьвітаемся.

Ужо назаўсёды.

Ня плач.

Так неабходна.

Інакш быць ня можа.



Ал. Агністы

# Ля магілы

Давялося і мне ля калін,
ля зялёных калін над ракою
слухаць сьпеў, што ліюць салаўі
перад раньняю, яснай зарою.

Было ціха зусім навакол,
нат лісты не шапталіся—спалі...
А яны у дуброве званком
свае гукі лілі—разьлівалі...

А чаму? мо таму што калісь
там паўстанец у бойцы загінуў,
як ішоў галавою лажыць
за жыцьцё, вызваленьне краіны.

Ён ішоў так бадзёра ў прастор,
але куля, агідная куля
ажаніла з сырою зямлёй
зшлюбавала з прарэзьлівым гулам.

Цяпер там між зялёнай травы
выглядае бы кветка магіла.
Ля яе раніцой салаўі
заліваюцца сьпевам гульлівым.

І таму так ліецца напеў
над паўстанцкаю, слаўнай магілай,
што сягоньня ў краіне ўсе
жывуць вольна і мэты адзінай...

І вось там ля зялёных калін,
давялося мне быць над ракою.
Слухаць сьпеў што ліюць салаўі
перад раньняю яснай зарою.



ГАННА БРЭСКАЯ.

# Чырвоны мак

Чырвоны мак
абвеенай галоўкай
ківае мне, як стары добры сябра...

Тых дзён няма,—
пранесьліся далёка,
іх не вярнуць
і ў песьнях не абняць.

Я помню дні у сонечных запалах,
я помню дні у віхрах барацьбы...
і хоць цяпер пялёсткі пазрывала,
а не астыў юнацтва пыл.

Стаю адзін, а захад пунсавее
і вецер трэпле ў кудрах сівізну,
я знаю, што зімовыя завеі
прарочаць нам сусьветную вясну.

Тых дзён няма...
Здаецца так далёка
і маладосьць ня вернецца ізноў...
Чырвоны мак
ківае мне галоўкай
і сыпле зерне ў прэлы чарназём.

# Ліпнёвае

Шэпчуцца кудлатыя
вербы ля мяжы.
Мы сягоньня сваталі
сонечную шыр...
Зьвісла
сіняй
сеткаю
павуціны ніць...
Ой, збыліся сьветлыя
майго лета сны.

Песьня ветлай ластаўкай
просіцца з грудзей.
Заквітнела радасьць зноў
у ліпнёвы дзень.

Шэпчуцца кудлатыя
вербы ля мяжы...
Мы табе сасваталі
сонечную шыр...

ЯЗЭП КОЗІК.

# Павісьлі вецьці на вадзе

Раськідаў я
напеў з грудзей.
А ў цёмны вечар—
гдзе ня дзе:
павісьлі вецьці
на вадзе.

Павісьлі вецьці
на вадзе.
А ў ціхі вечар,
сьветлы дзень
люблю плысьці
куды ў жыцьці
мой шлях вядзе.

Куды ў жыцьці
мой шлях вядзе,
куды ідуць
гады і дні.
І я прышоў
дзе ўсё гудкі гудуць,
а сталь зьвініць.

О, знаю так
мяцежны горад
інакшы лёс
палём спрадзе...
Зазвоніць ў далях
трактар волат,
дзе вісьлі вецьці
на вадзе.

---

* * *

Усё адышло на сініх ростанях,
а хаты шэрыя сьмяюцца так імглой
і ветры дальнія гайдаюць посьвістам
па шырыні пустых палёў.

І сэрцу хочацца з радзімай песьняю
ляцець акордамі зьвінячых струн,
бо хай нядаўна ‘шчэ было тут весела
і пышна красавала рунь.

Я знаю: прыдзецца парою іншаю
іх шолах выцьвеўшы не зразумець,
калі над гольлямі імглою зьвісшаю
павяўшая зьлятае цьвець.

Няхай-жа гойсаюць вятры над кручаю
журлівай цемраю, ліхой тугой...
Ў нас сілы новыя ды кроў кіпучая,
ў нас—маладосьць,
у нас—агонь.

СЬЦЯПАН СЯМАШКА.

# ПАДКІДЫШ

## (АПАВЯДАНЬНЕ)

### I

Было ўжо цёмна калі Матруна з вядром у руцэ выхадзіла з сяней.

Пасьля невялікага дожджыку паветра было чыстае і мяккае. Вечар разьліваў пахі цьвітучай ліпы і накошанага сена. На краю жытнёвага поля чулася гутарка перапёлак, а з хмызьняку, што разьлёгся за ракой, салавей водгульлем уплятаў сваю дзіўную песьню ў кудравыя галіны таўстых ліп.

Матруна туляючыся каля плоту прайшла вуліцу і застанавілася ў канцы вёскі ў густым высокім жыце. Некалькі хвілін стаяла нярухома, аглядалася па бакох, прыслухоўвалася, а пасьля павольна апусьцілася на мяжу, села.

Ціхі ветрык сьцябаў Матруну па твару ядранымі каласамі жыта, якія брызгалі буйнымі кроплямі вады.

— Шкода... ніхто ня знойдзе да жніва... загіне,—прашаптала яна накрываючы хусьцінкаю вядро,—...Але сказаў-жа гад гэты...

Далей штосьці хацела гаварыць, але раптам перасохла ў горле і з вачэй мімаволі пасыпаліся

гарачыя сьлёзы. А пасьля абапёршыся рукамі аб халодную мяжу—пачала губляць гарачыя сьлёзы ў густой траве. Думкі аб мінулым, сучасным і будучым ахапілі Матруну.

Каравай ніткай перад Матрунай праходзіла ўсё яе жыцьцё, маленства. Успомніла пакойніцу маці, якая часта гаворыла:

— Выб'емся, дачушка, як-небудзь з гора, палягчэе жыць... А цяпер трэба і папакутваць, відаць лёс наш такі...

— Мамка, а дзе наш тата? — пыталася тады Матруна ў маці.

Хвядося цяжка, цяжка ўздыхала і выціраючы хвартухом вочы—адказвала:

— Лепш ня пытайся, дачушка, бо ад гэтага цяжэй становіцца на сэрцы...

Матруна прыставала абдымаючы шыю маці.

— Ну скажы, мамка, хутчэй.

— Ты была тады яшчэ маленькая, адзін годзік табе толькі быў як яго забралі... Па гарадох тады рабочыя ўстрайвалі забастоўкі, а сяляне секлі панскі лес. Але ня доўга гэта цягнулася... На трэці дзень поўны Засьценкі наехала жандараў і салдат і арыштавалі ўсіх мужчын... бізунамі ўсіх каталі...

Хвядося не магла далей гаворыць. А Матруна зноў пытала.

— А далей што? Дзе-ж тату падзелі?!

Ніяк ня можна было захаваць ад дачкі вялікую крыўду і балючую страту.

— ... Ну ось, некаторых пасадзілі ў турму, а шмат каго саслалі ў Сібір, на катаргу... Тату таксама саслалі ў Сібір, а там ён ня вытрымаў са сваім здароўем і праз год... памёр.

Хвядося і Матруна горка плакалі.

... Словы маці ніколі не забудзе Матруна. Да гэтага часу ў сэрцы захавалася крыўда, але на каго, дык і сама Матруна ня можа сказаць: ці на салдат і жандараў, якія забралі яе тату; ці на «бога», якім пужае поп у царкве і якога яна ніколі ня бачыла, ці мо' гэтая крыўда на таго, хто прыслаў у Засьценкі жандараў і салдат.

Ніколі, пакуль не засыпяць пяском вочы, не забудзе Матруна і маці, якая праз катаваньні белапалякаў без пары пашла ў зямлю. Гэта было ня так даўно. Белапольскія акупанты рабілі тады ў вёсцы што хацелі: забіралі жывёлу, збожжа, вопратку, курэй... Жаўнеры гвалцілі вясковых дзяўчат і маладых кабет.

Гэта было тады, калі Матруне было ўжо сямнаццаць год. І вось за тое, што Хвядося ня пусьціла дачку з жаўнерамі на вечарынку—пазбавілася права на жыцьцё, а Матруна страціла родную маці, засталася круглай сіратою.

Пасьля сьмерці маці для Матруны ня жыцьцё стала, а атрута...

Яшчэ горш пачалі душыць сьлёзы Матруну, калі думкі дакаціліся да сучаснага яе жыцьця. Ня вытрымала, загаласіла.

— Загубіў дзявоцтва маё гад гэты... Сорамна на людзі паказацца. Загубіў... ды й не адну...

Доўга плакала. Раскудлачаная даўгая каса пераплятался з шаўковай травой на мяжы.

— ... Не, усётакі не зраблю так, як навучаў... ніхто ня знойдзе, загіне...

* * *

Густы белы туман атуліў вёску і поле. Дзесь у высі зьвінелі ўжо жаўранкі. У кустох ля ракі адклікаўся дзяргач.

Ціха, туляючыся каля плоту і вуглоў хат ішла жанчына. У вадней руцэ яна нясла вядро, а другой рукой шчыльна прыцісну ўшы да грудзей трымала скрутак рызьзя.

Дайшоўшы да вялікага новага дому, жанчына хуценька ўзбегла на высокі ганак і села на лаўцы. Як злодзей, яна ўважліва пачала аглядаць ганак, белыя сьцены і фарбаваныя дзьверы, на якіх вісеў вялікі замок. І так сядзела шмат часу. А пасьля ціханька паклала сваю ношку ля самых дзьвярэй. Прытуліла галаву да скрутка рызьзя, нібы сказаць хацела штосьці, але ўздыхнула толькі і раптам саскочыла з ганку.

— Добрыя людзі знойдуць...—прашаптала яна скрозь сьлёзы і шпаркімі крокамі накіравалася ў другі канец вёскі.

Жанчына прайшла некалькі вуліцай, а пасьля зьвярнула ў бок каля аблезлага мураванага касьцёлу і схавалася ў высокім, з дзюравым ганкам доме.

Туман пачынаў радзець і скрозь яго са ўсходу прабівалася чырвань.

---

II

Прайшло некалькі тыдняў.

Памяшканьне народнага суда перапоўнена сялянамі і сялянкамі.

— Пасяджэньне суда абвяшчаю адчыненым,— пачулася з-за даўгога, пакрытага чырвонай крамнінай стала, просьба зьняць галаўныя ўбраньні і трымаць цішыню.

Усе заспакоіліся.

— Слухаецца крымінальная справа па абвінавачваньню грамадзянкі Дударовай Матруны ў тым, што яна...

Пасьля таго, як сэкратар запісаў патрэбныя веды абвінавачанай, судзьдзя запытаў:

— Дударова Матруна, прызнаеце сябе вінаватай у гэтай справе?

— Я не вінавата... Мне было шкода, балюча, але-ж ён...—і Матруна не магла далей гаварыць.

— Кажэце далей,—зьвярнуўся судзьдзя.

— Я нічога больш не скажу, сьведкі ўсё ведаюць...

Сэкратар зноў запісаў, а судзьдзя выклікаў у залю сьведку.

— Казюнаскі Пранук, што вы ведаеце па гэтай справе?

— Я, можна казаць, нічога ня ведаю ў гэтай справе,—адказаў высокага ўзросту, з абвісшым парожнім жыватом ксёндз.

— А яна-ж у вас наймiткай працуе.

— Працуе... яна ў мяне, гэта праўда, але кожны раз увечары яна ходзіць па вечарынках з хлопцамі... А наконт падкідыша, дык гэта няпраўда, бо яна ня была цяжарнай,—скончыў паказаньне ксёндз.

У залю ўвашоў старык у белай кашуле і трымаючы ў абедзьвюх руках паношаную шапку апавядаў суду.

— Толькі ўскачвалася сонейка, я адправіўся ў каапэратыў купіць мукі ў яешню к талацэ...

— Бліжэй да справы, Стрэхаў Банадысь,—перарваў судзьдзя.

— Дык я-ж па парадку... Прыхаджу да каапэратыву—бачу на дзьвярах замок «ось цябе пуста,

дрыхне яшчэ, а ня ведае, што тут пільна трэба»— падумаў я на крамніка...

— Ну, а далей?

— Слухай-жа. Узыйшоў гэта я на ганак і толькі хацеў сесьці на лаўку, але бачу пад самым парогам нейкі вузельчык рызьзя, а ў ім штосьці шавеліцца. Спачатку думаўката хто-небудзь зьнёс...Расьхінуў рызьзё—хлопчык, ды такі спрытны. Скора прышоў крамнік і мы гэтага хлопчыка аднесьлі ў сельсавет. Дык вось як гэта было... Бабы як у бубен б'юць, што ўсё гэтае ня мінула ксяндза, але я нічога наконт гэтага ня ведаю... Ды ці мала чаго можна нагаварыць на людзей...

Адыходзячы ад стала Банадысь усё яшчэ бурчэў у сівую бараду, але яго ніхто ня слухаў, таму, што выкліканая сьведка—Куліна давала паказаньні суду.

— Так, што, грамадзяне судзьдзі, Матруна ў гэтай справе зусім не вінавата, бо жывучы цераз вуліцу з ёй я—ўсё ведаю... Не Матруну трэба судзіць, а вось каго,— і павярнуўшыся назад Куліна ткнула пальцам туды, дзе сядзеў ксёндз і нэрвова шчыпаў сябе за калені.

Матруна ў пяршыню ўзьняла вочы на чырвоны стол, за якім сядзеў судзьдзя і засядацелі: селянін у паркалёвай кашуле і сялянка перакінуўшы цераз плячо чырвоную хусьцінку.

— Дык Дударова не вінавата?—запытаў судзьдзя ў Куліны.

—За свае словы я адказваю перад судом як сьведка, а перад сялянкамі як дэлегатка,—цягнула Куліна,—ён Матруну і навучыў загубіць дзіцё, таму, што яно сумеснае іх...

Для суда ўсё было зразумела, а таму і пастанавіў астатніх сьведак не дапытваць.

— Што вы яшчэ дабавіце Дударова Матруна?

— Нічога... Куліна шчырую праўду казала,— адказала Матруна выціраючы сьлёзы, — я толькі прашу, грамадзянін судзьдзя, зьвярнеце мне майго хлопчыка...

* * *

Калі суд вышаў на нараду, у залі ўсе былі заняты гутаркай. Амаль кожны прысутны ў залі вызначаў Матруне кару.

Жанчыны спрачаліся з мужчынамі.

— Ты, дзядзька Тарас, даўнейшага права не раўняй да цяперашняга,—чуўся голас Куліны,—цяпер і жанчына раўнапраўная з мужчынам...

— Вось гэтае раўнапраўе і псуе вашага брата... Бачыш Матруна як хоча выкруціцца ад кары. Ці-ж гэта можа быць каб ксёндз...—яра даказваў стары з вялікай лысінай Тарас.

— А думаеш духавенства не падлюгі? Ды яны так і глядзяць каб ашукаць працоўнага чалавека...

— Ты Куліна не дзяры надта глотку за Матруну, ня ксёндз вінаваты, а ходзячы па шпіктаклях сапсавалася дзяўчына,—шамкаў бяззубы Арцём.

— Няма чаго хлусіць—Матруне за працай ня было часу жаночыя сходы даведвацца, а ня толькі...

Спрэчкі абарваў сэкратар, які нечакана даў каманду:

— Устаць, суд ідзе!

Разам стала нямая цішыня ў залі, якую прарэзаў цяжкі ўздых Матруны.

— Імям Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі... разглядзіўшы ўсе матар'ялы сьледзтва і паказаньні сьведак, а таксама прымаючы пад увагу сацыяльнае паходжаньне, няпісьменнасьць абвінавачанай і тое,

што...—суд пастанавіў: прапанаваць Дударовай Матруне на працягу трох месяцаў ліквідаваць сваю няпісьменнасьць зьвярнуўшыся за дапамогай к дэлегацкаму сходу жанчын. Суд таксама пастанаўляе зьвярнуць Дударовай дзіцё.

У залі ўсе пераглянуліся, а ў Матруны па твару прабегла радасная ўсьмешка.

— ... З прычыны таго,—цягнуў судзьдзя,—што са ўсіх матар'ялаў відаць, што злачынства ў гэтай справе зроблена Казюнаскім і прымаючы пад увагу яго сацыяльнае паходжаньне і судзімасьць за алі мэнты — суд пастанавіў: завесьці на Казюнаскага крымінальную справу і ў самым хуткім часе разьбіраць гэтую справу як паказальную. Пастанова суда канчаткова і абскарджаньню не падлягае.

Ксёндз бялеючы ў твары машынальна церабіў выбрыты на галаве вялікі плеш, а сяляне гудзелі разыходзячыся дамоў.

— Ня дарма, значыць, як у бубен б'юць бабы..., бурчэў Банадысь.

— Раз у судзе ўсе довады маюцца, — значыць праўда, што...—дадаў Тарас.

1928 г.



## ТАРАС ХАДКЕВІЧ

Палянам шоўкавым прывет,
прывет старэнькім хатам.
Шумлівы гай заве, заве,
лісточкамі махае.

Прыйдзі! Сваё чало схілі
перад знаёмым шумам,—
абвее шырынёй зямлі
і ласкай сьвежых думак.

Зашэпча задумённы лес
пра сьветлыя даліны.
Мінулае-ж
ад нас далей
няведама дзе гіне.

Увечары агнямі клюб
мігае гэтак ветла,
калі чароўнае «люблю»
нясе з-за горкі
ветрык.

Увышыню імкнецца дым
кудравай белай воўнай.
А гарманісты малады
кідае тоны-звоны.

Таму ад гораду прывет,
прывет старэнькім хатам...
Хай поле трактарам заве,
калосьсямі махае.

# Дзяўчыне

Тваe вочы—аганькі вясеньнія
ласкай незнаёмай зацьвілі...
Глянеш: красак тысячы пасеена
па шырокай, дарагой зямлі.

Пойдзем!.. Недзе зорачнымі сьпевамі
дагарае вечар над сялом.
У чытальні, быццам зерне сьпелае
рассыпаюцца ахапкі слоў.

Добра маладымі камсамольцамі,
без клапот аджыўшае журбы.
Калі думкі дням інакшым моляцца—
добра камсамольцамі так быць.

Знаеш: парашылі сходам сёлета
з гаспадарак скласьці калектыў.
Скора там інакшаю, вясёлаю,
як усе дзяўчаты будзеш ты.

Пойдзеш заўтра—на нараду клікалі
—дэлегатцы-ж воля ды прастор...
Уздымаецца жыцьцё вялікае,
сэрдца адбівае буйны тон.

Шчасьця-ж многа росамі пасеена
па шырокай, дарагой зямлі...
Твае вочы—аганькі вясеньнія
ласкай незнаёмай зацьвілі.



ПЯТРУСЬ БРОЎКА.

# Зноў на вёсцы

Прыехаў.
Іду па дарозе
і як гаспадар аглядаю.
Чагосьці здалёку бяроза
зялёнаю хусткай ківае.

Прайшоўся сасновай алеяй,
ў пякоце ядленец замлеў...
— Дзень добры, дзядуля Ярэма!...
і ты ўжо
ўпісаўся ў арцель?

— А як-жа ты думаў
сынок мой!...
так лепш
і куды спадручней.
Нічога... і хлеба даволі
і сэрцу нібы весялей.

Стаіць...
Прыпыніўся на хвілю,
паклаў на ўзмежак тапор,
а вецер пяшчотна гульлівы
гуляе з сівой барадой.

Пятрок мой!...
Спачатку баяўся
ў «камунію» гэтую йсьці,
бо думаў, што косьці старыя
ня будзе каму аднясьці.

Цяпер-жа... нішто...
аглядзеўся,
раблю ўсё па сіле сваёй;
як бачыш вось крыху
прыадзеўся,
ніхто ўжо ня кпіне, што голь.

Ну добра!...
Бывай-жа мой любы...
тут трэба вось
скончыць прасек.
Зьдзіўленьне мяне агарнула
аб зьменнай такой паласе.

На полі гручэлі машыны
І песьні —
— віселі ў гары,
а сонца пазлотай абліла
паводаль прыжмураны лес.

Ярэма мой стары знаёмы,
з дзяцінства
я знаю яго.
Калісьці палезшы па грушы
адчуў яго тоўсты кіёк.

Здаецца, калі тут...
нядаўна...
Ярэма мой быў не такі...
што слова «камунію»
кляў ён,
а сёньня ўжо так палюбіў.

Запалі чаромхі
на сэрца,
а ў вачох заіскрыў агонь,
што людзі ў далёкае верацъ
і сьмела ідуць да яго.

Іду зноў
па стужцы-дарозе,
вясёлы... бадзёра сьпяваю.
А здаляку ветла бяроза
зялёнаю хусткай ківае.

Полацак, 1928 г.

КАСТУСЬ ПЧАЛКОЎ.

# ІДЗЕ ЖЫЦЬЦЁ

Ідзе жыцьцё напорным крокам—
яшчэ ніхто з нас не застыў,
бо ловіць сонечны узрок
адзерванелыя сьляды.

Над рэчкай вільгатнай, туманнай
пяяць я буду ад душы.
Ці позна заўтра, ці то рана
абменяць коняй на машыны.

Ідзе жыцьцё ўсё вышай, вышай—
навокал сонечна—раздольле...
І да нязьведаных узвышшаў
ідзе нас болей, болей, болей!..

Ідзе жыцьцё напорным крокам—
яшчэ ніхто з нас не застыў,
бо ловіць сонечны узрок
адзерванелыя сьляды.

1928 г.

МАКАР ГРАШЧАНКА.

# ЖАНОЧАЯ ДОЛЯ

## (АПАВЯДАНЬНЕ)

— Мама, есьці дай,—гучыць, як авадзень Міколка чапляючыся за спадніцу Ґанны.

— Лярва, каб цябе немач, ідзі гной нарываць,— крычыць Сьцяпан са двара.

Сунула хуценька акрайчык хлеба Міколку ў руку, зірнула на калыску, у якой ляжалі двухмесячныя сыны—двайняты і бягом выконваць загад мужа.

Расхрыснуўшы брудную кашулю ўскочыла Ганна ў хлеў поўны сьпёртага паветра, якое выклікае сьлёзы і кашаль.

Напружыўшы жылы чатырохраговымі вілкамі яна ўскідала пласты на воз.

Мужык тым часам рашыў закурыць.

А з хаты несьліся разьдзіраючыя сэрца Ганны гукі малых: «Уа, у-а, у-а»... крычаў той, што ляжаў галавой да печкі. «А-у, а-у, а-у»... дапамагаў другі, што ляжаў нагамі да печкі.

Трохгадовы Міколка ў гэты час боўтаўся ў сенцах у памыйніцы, але крыкі малых братоў перашкаджалі яму займацца сваёй справай. Азірнуўся па баках, і не заўважыўшы ні мамы, ні таты блізка, рашыў пайсьці заспакоіць братоў.

Бачыў ён як мама рабіла калі яны пачыналі плакаць: возьме, ды і таўхане калыску. Голас у братоў тады пачынаў трасьціся і яны сьціхалі. Дабраўся ён да калыскі, задраў рукі ў гару і зварухнуў яе. Двайняты не заспакайваліся. Мацней Міколка таўхануў калыску і ня здолеў адскочыць, як раскалыханая калыска стукнула яму ў лоб.

«Ы-гы-гы-гы»... панеслася з хаты. Застукала абамлела сэрца Ганны.

Уздрыганулася ўсёй постацьцю пачуўшы трэці голас, які перамагаў сваёй сілай два ранейшых. Спынілася, ледзь ня выпусьціла вілкі з рук і хацела пабегчы да дзяцей, але грубы загад: «Нечага там спадніцу церці з шчанятамі, нарывай!»—спыніў яе.

Крыўдна стала Ганне, што стаіць сабе Сьцяпан падпёршы плячом шулу, курыць і пасобіць ня хоча. Як агнём ахапіла яе. Хацелася не паслухаць, але ўспомніла ранейшыя пабоі за тое, што замешкаўшыся з дзяцьмі не падала мужу дугі ў свой час, Устрымалася. Твар яе зьмяніўся з чырвонага—распаленага ад жарыні і працы, у жоўты. «Чаго ты слупам стаіш і пасобіць ня хочаш»—думала сказаць Ганна агіднаму гультаю, але пабаялася. Падумала і захавала думку.

Прычыніўшы вароты, яна кінулася ў хату. Ухапіўшы Міколку на рукі, давай трасьці калыску каб заспакоіць малых.

Пахукаўшы і пастудзіўшы гуз, Міколка адразу заспакоіўся ад ласкавага абыходжаньня мамы і не ўзабаве пачаў ужо ганяць па двару курэй. Але малыя не заспакойваліся. З новай сілай цягнулі сваю песьню, паддаючы адзін другому ахвоты. Малыя хацелі, відаць, есьці.

Нахілілася Ганна над калыскай і сьціснуўшы

зубы ад болю ў грудзёх і стукам ад утому ў галаву, хваравіта пераступала з нагі на нагу.

Крыху спагадзя нездаволеныя малыя пачалі зноў плакаць.

Стомленая і сьцягнутая стаяла Ганна каля калыскі ня ведаючы што рабіць, але раптам зрабілася млосна. У бясьсільлі апусьцілася на пол адсунуўшы сабраную ў камок дзяругу, і... заплакала.

Хто можа зьмерыць глыбіню яе сьлёз? Хто яе пашкадуе і чаго яна плача?

Высахшая ў былінку яна не магла зварухнуцца з месца.

Роем замітусіліся думкі і нібы-та пачала засыпаць. Сьціхлі і дзеткі. Мо' таму, што надакучыла крычаць, а мо таму што ня здолелі больш, хто іх ведае...

Прытулілася Ганна, а на сэрцы гарката, быццам палын пасеялі. Думкамі апынулася ў мінулае... Перад вачыма пачало праходзіць пражытае і пера-жытае...

* * *

Пяць год ужо як ня чула Ганна ласкавага слова мамы—«дачушка,»—а як бы хацела яго цяпер чуць... У мамы бывала ўстане Ганна рана-раненька, чуць яшчэ сьвет прабіваецца праз маленькае ваконца, пагоніць кароў папасе па межах, ды шляхох, а потым разам з суседзямі і на поле.

І заўсёды весела было, і заўсёды радасная была Ганна. Ці на працу ідзе, ці з працы, усё пяе. Ганна.

Дзівяцца бывала суседзі і з зайздросьцю пасьміхваюцца: «Вось галеча! Ці ела, ці ня ела, а ўсё песьні пяе».

А Ганна цьвіла, як чаромха. Яна не хадзіла, яна птушкай канарэечкай лётала, ды весялілася. І чаму не весяліцца, калі з сваей работай скончыш, а потым і ў суседзяў заробіш на спадніцу ці чаравікі. Рукі-ж яе працы не баяцца, а як працуе, тады й весела.

Хлопцы не праходзілі міма Ганны каб не паглядзець у яе глыбокія блакітныя, як неба вочы, поўныя хараства; на яе прыгожую, як на малюнках постаць, на яе даўгую русую касу, якую Ганна любіла ўбіраць кветкамі дый істужкамі.

Але... бацькі заўсёды пярэчылі сынам пайсьці ў сваты, бо... «Галеча, акрамя прыгажосьці ды рукня мае нічога».

І Ганна ведала, што заможныя ёй ня пара, што яна паходзіць ад бедных бацькоў, у якіх няма чаго даць у пасаг, а без пасагу хто-ж паквапіцца.

Ніколі яна не заглядалася на багатых, нікольні не спачувала іх кляцьбе што любяць і возьмуць замуж, колькі яны не прыставалі.

Ведала хто яна, і таму знала сабе цану.

Як стукнуў ёй васемнаццаты год, маці ўсё часьцей і часьцей заводзіла з дачушкай таемныя размовы.

— Мамачка, не хачу я на яго і глядзець, бо ведаю хто ён і хто я. Ня пара ён мне. Яму трэба работніца, ды й каб кублы былі поўны, а ў мяне што ёсьць? Не знайду я сабе такога як сама.

Маці не пярэчыла. Сьціхала. Успамінала што й яна калісьці была прыгожая, што й за ёй хлопцы ўвіхаліся, але спакусіў адзін, а ўзяць ня ўзяў, бо— няма пасагу. Памятала яна гэта.

А Ганна зноў рабілася вясёлай, абдымала матку і са шчырым каханьнем гаварыла:

— Ведаеш, мамачка, у мяне ёсьць каханак— Янка Зьмітраў. Які ён разумны, які спрытны да працы і... прыгожы. Які ён добры,—захлёбваючыся гаварыла Ганна.—Прыдзе да мяне, і гаворыць са мной пра жыцьцё, пра ўсё што нас акаляе, пра тое, як мы будзем удваёх з ім жыць... А голас у яго такі мяккі, словы шчырыя...

— Дачушачка! Ведаю я што каханьне сілу мае, але што з таго каханьня, калі ня будзе чаго есьці? Не здарма-ж людзі кажуць: «Не пад'ясі—бацьку з маткай прадасі».

— Ай, кінь ты, мамка. Мы маладыя, здаровыя працаваць любім і умеем, рукі моцныя і заўсёды заробім сабе на пражыцьцё. Толькі калі адзін другім будзем здаволены, дык усё астатняе нажыўное.

Маці згаджалася з Ганнай і таму яшчэ горш рабілася на сэрцы, бо яшчэ ўчора паведаміў бацька, што ён ужо і магарычы папіў з Міронам руднянскім за Ганну.

Бацьку хочацца завесьці сваяцтва з Міронам— першым багатыром на ўсю аколіцу, і ён не запытаўшы згоды ў Ганны, сам вырашыў гэта пытаньне, ведаючы наперад аб тым, што жаніх гэты гультай, абібока, ды й ня ўсе дома ў яго,—як людзі кажуць.

У Мірона-ж два з паловай надзелы зямлі, працы шмат, а рабочых рук мала. Ганна-ж за траіх зробіць, бо маладая, здаровая і Міронавай гаспадарцы карысна мець такую. А што Сьцяпан таво-с... дык глупства. За тое-ж багацьце.

Даведаўшыся аб гэтым занепакоілася Ганна. А тут бацька штодзённымі гутаркамі аб багацьці Мірона—свата, патрубіў вушы ўжо.

Спрэчкі з бацькам заўсёды канчаліся пабоямі. Бацька быў грозны і на дапамогу пузе ўзяў лейцы.

Моўчкі пераносіла крыўду Ганна ў сваім дзявоччым сэрцы і перастала ўжо спрачацца з бацькамі. Ды й навошта? Няхай толькі хутчэй Янка зьвернецца. У яго будуць грошы і яны... як казаў аднойчы Янка, калі сядзелі ў садку слухаючы пераліўчатыя песьні салаўя, запішуцца ў камуну і будуць работаць разам з іншымі.

— Хутчэй, хутчэй зьвярніся мой любы! Ня жыцьцё мне тут!—Голасна гаварыла Ганна сама сабе, а на сэрцы...

Але не хацела яна прыслухоўвацца да таго, што рабіла боль на сэрцы. Яна пашла на вуліцу, дзе разносіліся пераліўчатыя гукі роднае песьні.

Толькі схавалася Ганна за пуню, як да варот пад'ехала тры асобы на парцы коняй упрэжаныя ў калёсы на жалезным хаду.

Ня бачыла, дый не хацела бачыць гэтага Ганна, бо яе цягнула туды, адкуль нёсься сьмех і жарты дзяўчат.

Засьвяцілася ў хаце бацькі Ганны вісячай лямпай, пазычанай у суседа, для такіх гасьцей.

Бацька ўюном в'ецца ля гасьцей запрашаючы іх за стол.

— Садзецеся, добрыя людцы, вельмі рад што вы заехалі. Ці па справах якіх, ці проста так?

— Справы ня справы, ды й так мы езьдзіць ня езьдзім, бо шкода дарма коняй ганяць,—адказаў Мірон садзючыся на кут, як гаспадар у сваёй хаце.

Разгладжваючы сваю бараду—лапату з сьмяшком у ваччу і гонарам у голасе, пачаў Мірон знаёміць:

— Вось гэта мой сусед—Дзямід, сват, значыцца, а гэта-гэта... мой сын Сьцяпан.

Прытулілася маці да прыпячку, і маршчыністы твар праглынуў выплыўшыя з старых вачэй сьлёзы.

— Няшчасная, мая дачушачка. За якога-ж капшука думае цябе бацька ўперці!

Ціханька вышла з хаты, прытулілася каля дзьвярэй і шкада стала ёй Ганны.

Што рабіць? Што рабіць? думала маці і не знаходзіла адказу на прыкрае пытаньне.

— Старая! Куды й та ты сьцягнулася? Ідзі пакліч Ганну дамоў, ды хутка, бо пільная справа.

Нічога не сказала маці. Выцерла хвартухом раўчачкі сьлёз і пашла.

А Ганна вясёлая.

Яна сьпявае разам з дзяўчатамі і яе пекны голас вылучаецца сваёй мелягучнасьцю.

— Пойдзем, дачушка, да хаты. Бацька кліча.

— Ці не сваты прыехалі?!—вырвалася з грудзей Ганны.

Не сказала нічога маці. Сьлёзы душылі.

Моўчкі дашлі да хаты, кожная занятая агіднай думкай.

— Дачушка! Не пярэч бацьку, бо саб'е на горкае яблыка,—упрашвала матка.

Ганна ўвашла ў хату ціха, але цьвёрда. Не давала веры, што бацька будзе гнаць яе сілком, у тый час, калі яна дала згоду любаму, каханаму Янку.

Сваты ўжо расьпівалі трэцьцюю бутэльку гарэлкі.

— Сьцяпан! хвост дудкай трымай! Ды ня пуч вочы, як сава. Во табе жонка.

— Гэта?— зьдзівіўся Сьцяпан. Яна за мяне ня пойдзе.

— Кінь хныкаць! У твайго бацькі дабра уй-юй юй колькі, а яны бяднота. З радасьцю пойдзе,—падміргваў сват.

— Ну, дачушка! Да нас заляцеў сокал у госьці—Сьцяпан Міронавіч. Паваркуй з ім... Але лепш пасьля паваркуецца, як адны будзеце, а цяпер хадзі-тка чокнемся—я, ты, сваты, Сьцяпан, ну і ты, старая,—заплятаючымся языком гаварыў бацька, і рука падхапіла наліты сватам кіляшок гарэлкі.

А Ганна стала пасярод хаты, як укопаная. Упілася вачмі ў Сьцяпана. Навылёт бачыла што за птушка.

— Што скасілася, як серада на пятніцу?—гаркнуў бацька.

Татачка, даражэньні, ня губі ты мяне... У мяне ёсьць каханак, якога гэты і падноскаў ня варт.

— Ідзі выпі, а то сьлёз нап'ешся.

— Пі, пі маю кроў, калі табе так хочацца, а я ня буду.

Мірон адсунуў ад сябе гарэлку.

Хоць і ня першыня яму бачыць такія сцэнкі, бо з сваім сынам ня ўпершай хаце ўжо і ўсюды нявесты ня хочуць, але Ганна такая прыгожая, такая здаровая і Мірон не на жарты пачаў варажыць ці выйдзе што. Наперад пачаў ужо шкадаваць чатырох бутэляк гарэлкі

— Ды ён за шчасьце палічыць быць маім сватам, бо калі жаніх неякаваты, дык бацька мае тоўстую кішэню, ды гаспадарку добрую,—заспакайваў сам сябе Мірон.

— Дай ты ёй агледзіцца. На вошта адразу пужаць. Асвоіцца і ўсё добра будзе. Жаніх багаты, за яго першая дзеўка пойдзе з ахвотаю,—падпусьціў гонарару сват.

— Няхай хто хоча ідзе, а ад мяне адкасьніцеся. Не пайду я за яго.

— Пойдзеш! Крыкнуў бацька і на лбе напружылася сіняя жыла.

— Не пайду!

— Маўчы пляткарка! Кажу пойдзеш, дык пойдзеш. А ня пойдзеш—бягом пабяжыш і заліў сабе яшчэ шклянку гарэлкі, а Ганна залілася гаручымі сьлязамі.

Са сьлязамі на вочах і болем у сэрцы выдалі Ганну за Сьцяпана і вось пяць год мучыцца яна. Ні абыходжаньня добрага ня ведае Ганна, ні тым больш любасьці.

Пяць год жыцьця з нялюбым чалавекам. За пяць год перанесла Ганна шмат гора.

Жыла ў бацькі Сьцяпана. Працавала ад цёмнага да цёмнага, а бачыла толькі крыўду, зьнявагу ды пабоі.

Выгнаў Мірон, як дзіцё нарадзілася. Яму патрэбны вольныя рабочыя рукі, а як яны сталі занятыя—ён і выгнаў.

Праклятае жыцьцё з Сьцяпанам выклікала розныя думкі ў Ганны.

Уцякаючы ад агідных думак, Ганна пачала наведваць суседзяў, каб хоць крыху разьвеяць сваё гора.

— Дык чаго ты мучышся? Калі дрэнна жыць, дык цяпер жа закон ёсьць каб палепшыць гэта жыцьцё. Гэта-ж ня стары час,—казалі суседзі.

— Што-ж рабіць мне?

— А ты схадзі, тайка, да Маланьні, дэлегаткай яна ў нас і законы ўсе ведае. Яна парадзіць табе, ды й пасобіць яшчэ.

Пашла Ганна на жаночы сход. Уважліва слухала яна Маланьню, якая проста і зразумела гаварыла аб тым, якія законы ёсьць і як жыць трэба.

Нешта новае, рашучае радзілася ў галаве Ганны ў гэты час. Пестуючы гэту думку зьвярнулася Ганна да дому.

—А лёс наш, цётачкі, у нашых руках. Есьць законы на паляпшэньне нашага жыцьця, толькі трэба ведаць іх і ісьці па іх,—Запомніла Ганна апошнія словы Маланьні.

— Права Маланьня. Зраблю як яна казала,— рашуча ўголас прагаварыла Ганна.



Сьпір. МІХАЛЬЦОЎ.

# МІКОША

## (АПАВЯДАНЬНЕ)

### І. Барацьбіт успамінае.

Калі хаваючыся за край зямлі сонейка кідала па вярхушках зялёнага лесу свае разьвітальныя ўсьмешкі, калі задуменна цалаваліся ад ціхага ветрыку бярозавыя лісьці, тады Мікоша ўваходзіў у цішыню гаю, дзе кожны глаток сьвежага, паветру прымушаў яго садзіцца каля пакрытага зеленьню краю леса і слухаць пераліўны сьпеў салаў'я.

Шмат чаго ў такія хвіліны праходзіла перад задуменнымі вачыма Мікошы. У яго ваабражэньні паўставаў Перакоп, дзе змагаўся разам з тысячамі такімі-ж як і ён. Вось ён ідзе ў шчыльных шэрагах чырвонаармейцаў і моцна трымае ў руках вінтоўку. Яго перакідваюць на заходні фронт, у родную краіну, дзе заселі белапалякі і зьдзекваюцца над яго роднымі і знаёмымі.

Перад вачыма Мікошы зноў праходзіў жывы малюнак, калі загартаваныя ў парахавым дыму партызаны, дапамагалі баявым калёнам чырвонаармейцаў, адбіваць куткі Беларусі.

Ён успомніў, як зьвярнуўшыхся з фронту барацьбітоў радасна спаткалі родныя вёскі. Шасьці-

дзесяцігадовы старык абдымае сына і цалуе шурша сівой барадой. Сябра па дзяцінству суседка Таіса кідаецца на шыю прыехаўшага мужа.

— Каханы!.. Зьвярнуўся... Якая радасьць!..

Мікоша таксама адбіваў Перакоп, адкідваў белапалякаў, быў пад Варшавай, зьвярнуўся дамоў. Чаму-ж яго ніхто не спаткаў ласкавымі словамі? Чаму бацькі і малодшы брат Базылёк, ня вышлі на ганак? Чаму-ж—калі ён зьвярнуўся дамоў—у яго старэнькай хатцы былі забітымі вокны?.

Таму што—калі белапалякі пакідалі бацькаўшчыну Мікошы—паранілі замучанага голадам бацьку, загубілі маці, яны памёрлі. Таму, што брат Базылёк і дагэтуль яшчэ не зьвярнуўся з разьведкі.

Мікоша асірацеў. Адзін застаўся. Разлучылі яго з роднымі, як рыбу з вадой.

Успомніўшы апошняе, ён падымаўся з месца і забіты горам ішоў у пустую хату.

## 2. На сельскім сходзе

Сёньня ля хаты млынара Дубнова сышліся і аб чымсьці гутарылі сяляне.

Усе ў зборы.

Старшыня сельсавету акінуў поглядам натоўп, кашлянуў у далонь і зьвярнуўся да прысутных:

— Мы сёньня сышліся для таго, каб абгаварыць пытаньне аб надзеле Дубнова зямлёй пад сядзібу і млын. Калі што, дык справа ваша.. але я...

Прамову перарвалі дзесяткі галасоў.

— Дубнову ўсё мала!

— Тлусты будзе!..

— Жывот разапрэ...

— Усю вёску ў рукі хоча ўзяць...

Сход загудзеў, нібы кірмаш. Хто раіў «даць», хто—«ня трэба даць» зямлі. Дубноў стаяў у натоўпе і злосна паглядаў на сялян.

— Грамадзяне! Ну, дык што-ж?.. зноў крыкнуў старшыня.

Усе замоўклі. Адзін Мікоша ня вытрымаў.

— Таварышы!—пачаў ён,—Дубноў зьбіраецца нас ашукаць... Я прапаную адмовіцца ад надзелу яго зямлёй... А калі вы нічога,—дык я адзін у акругу пайду... А то і ў цэнтр дайду. Я ведаю зямельны закон.

— Правільна!..

— Справу кажаш!

— Не дадзём зямлі!

Сход шумеў. Старыкі курылі набітыя піпкі і крычалі ў адзін голас:

— Ня даць зямлі!

Дубноў мяняўся ў твары, робіўся то белым, то чырвоным.

У надзеле зямлёй Дубнову было адмоўлена. А вінаваты ва ўсім гэтым Мікоша. Ён гэтаму навучыў аднавяскоўцаў, бо ведае зямельны закон.

Адначасова Рагачоўцы ўзбудзілі хадайніцтва аб перадачы млыну Дубнова камітэту ўзаемадапамогі.

## 3. За праўдай.

З далёкай вышыні ўсьміхаецца ветлае сонейка. Ціхі ветрык прыносіць з гаю сьвежае паветра і напаўняе вёску пахамі лісьця. Дзесьці пераліваюцца галасы гармоніка, ды сьпяваюць дзяўчаты.

Ідзе Мікоша ў райвыканком, а ў думках:

— Эх, як сьпяваюць прыгожа! І ў арміі... бывала пастроіцца братва, ды як гаркне ў адзін голас «Марш Будзенага»—сэрца ад радасьці замірае.

Імкнуцца думкі Мікошы разам з гэтымі сьпевамі далёка, далёка—туды, дзе пад сьвежымі подыхамі ветрыку задрамалі шоўкавыя загоны.

— Ну, брат, чакаў я цябе колькі, сумна зрабілася,—з радасьцю кінуў Мікоша спаткаўшы лістаносца,—мне ёсьць што, ці яшчэ пішуць?

— Ёсьць,—адказаў лістаносіц, аддаючы газэту.

Мікоша сеў на ўзгорак і разьвярнуў газэту, у якой была надрукавана заметка:

### Кулаку далі адпор.

Сяляне в. Рагачоўка аднагалосна адмовілі ў надзеле кулака Дубнова зямлёй.

Адначасова ўзбудзілі хадайніцтва перад райвыканкомам аб канфіскацыі яго млыну пад камітэт узаемадапамогі.

**Мікоша.**

Мікоша паклаў газэту ў кішэнь і пашоў у райвыканком.

* * *

Вечар. З лагчын падымаецца густы туман, ды белай воўнай ахінае зямлю.

Зварачваецца Мікоша з райвыканкому радасны, бадзёры. Забыўся на мінуўшую сумоту, забыўся на Перакоп, дзе змагаўся за новае, сьветлае жыцьцё. З думак ня выходзяць словы старшыні райвыканкому «пытаньне аб канфіскацыі млыну, перадаецца на разгляд прэзыдыума райвыканкому».

Лес. Дзесь трэснуў сухі яловы сучок. Пачуліся чалавечыя крокі ў гушчары. Неякавата стала Мікошу, мурашкі прабеглі па скуры.

— Ш...ш ш... ш шчу...

Распахнуліся пераплеценыя галінкі малодзенькіх ёлачак і адтуль вынырнула постаць Дубнова.

Мікоша не пасьпеў нават падумаць адносна нечаканай сустрэчы з Дубновым у такі позны час, як снопам паваліўся на зямлю з разьбітай галавой.

— Гы-ы-х... здыхай сабака... жыцьця няма з-за цябе,—пачуўся злосны голас Дубнова.

Кроў'ю абліліся газэтныя радкі. Але Мікоша моцна трымае газэту ў руцэ.

... Ляжаў, а вусны мінавалі шапталі: «Змагаўся пад Перакопам... быў пад Варшавай... Фронт... Забіты бацькі... Загінуў Базылёк... Стаяў за аднавяскоўцаў... а тут—н-на «табе».

* * *

Толькі на другі дзень раніцай, калі сонейка вылязала з-за лесу — Мікоша павярнуўся, цяжка ўздыхнуў хапаючыся апухшымі рукамі за акрываўленую галаву.

Калі везьлі Мікошу па вуліцы, уся Рагачоўка высыпала сустракаць.

## 4. Нечаканае спатканьне.

Ляжыць Мікоша дзень у хаце, ляжыць другі. Па хаце муха праляціць—чуваць. З сьцяны Калінын паглядае і быццам-бы кажа:

— «Ну, што, Мікоша моцна цябе жахнулі? Нічога стой і на другім фронце, змагайся»...

Ня гледзячы на дрэннае здароўе Мікоша не пакідаў распачатай працы. Ізноў успамінаў мінулае, а разам з гэтым нараджаліся новыя думкі:

— «Канфіскуем пад селькамітэт Дубнова млын... Адчынім хату-чытальню... Пабудем сцэнку... Новае жыцьцё будзе ісьці нясупынным крокам наперад».

Ён успомніў наказ чырвонай арміі, што на вёсцы таксама барацьба... фронт... Але толькі бяз штыхоў і газу.

* * *

Сёньня раніца ясная, вясёлая.

Па Рагачоўцы разносяцца і ўплываюць сумесна з сьпевамі, гукі вясёлага гармоніка.

Моладзь сьпявае, жартуе, сьмяецца, а Мікоша вышаў на прызьбу, сеў каля хаты, апусьціўшы кудравую галаву, задумаўся. Яму здавалася, што вось, вось, ён пагасьне, пакіне недаконча ную з Дубновым барацьбу. Але нечакана перад ім зьявіўся малады, сярэдняга ўзросту хлопец у шлёме, зялёнай кашулі з ордэнам чырвонага сьцягу—абрадваў сумнага Мікошу.

— Базылёк! няўжо ты? зьвярнуўся...

— Я. Што з табой Мікоша? Хворы?...

Худыя рукі ахапілі Базылькову шыю і сьціснуліся.

— А дзе-ж бацькі?...

— Няма, Базылёк... адзін застаўся...

Мікоша ня мог гаварыць. Гэтакай радасьці ня ўтапіць у моры.

## 5. Рагачоўскае сьвята.

У нядзелю у Рагачоўцы выгляд як ніколі. Рагачоўка сьвяткуе. З гораду прыехала некалькі маладых хлапцоў, дзяўчат і стройнымі шэрагамі прышлі юныя піанэры.

Сёньня горад прымае шэфства над Рагачоўкай. Агульны сход прахадзіў пад адчыненым небам.

На сходзе старшыня райвыканкому паведаміў, што млын Дубнова канфіскаван і перадаецца камі-

тэту узаемадапамогі, а Дубноў прыцягваецца да адказнасьці за замах на дэмабілізаванага чырвонаармейца, грамадчыка, селькора.

Мікоша сядзеў у прэзыдыуме радасны і вясёлы. На супроць яго стаяў Базылёк.

Сонейка сьмяялася, кідаючы свае праменьні ў Рагачоўскія куткі.

Сход гудзеў роем пчол. Дзесьці пераліўнымі галасамі пеяў гармонік і разнасіліся знаёмыя сьпевы.

А над варатамі аднятага ў Дубнова млыну віднеліся вялікія чырвоныя літары:

**МЛЫН**

**Рагачоўскага Камітэту Ўзаемадапамогі.**

Эд. САМУЙЛЁНАК.

# Партызан

1.

Ноч...
  Абшарпаныя хвоі
  злосна ваююць з ветрам.
  Дыхаюць злым неспакоем
  лесу касматыя нетры.

Ноч...
  На начных палянах
  сьвецяць начныя агні.
  Зоры глядзяць маляваныя,
  дрэмлюць згрыбелыя пні.

2.

Месяц схаваўся за хмары,
цешыцца цёмнай ноччу.
Ў лесе калышуцца мары,
блудзяць па сьцежках змрочных.

Недзе панурая цемра
гасіць ў балоце агні...
Хто гэта крокам пэўным
ціш першабыту зламіў?

Хто гэта там пад хвоямі
шэлестам кінуў словы?
Хто гэта страх неспакойны,
сыпле ў лясныя сховы?

Не... Гэта толькі мары,
мары начных лясоў.
Гэта нязнанья чары,
чары
былых
часоў...

3.

Бачылі хвоі ў зьдзіўленьні,—
згасьлі ў балоце агні...
Шоркнулі цёмныя цені
і абудзіліся пні.

Воўк, што схаваўся за хвоямі
ўздыбіў калматую шэрсьць...
З лесу, з гушчару сасновага
вышлі—
узброеных шэсьць.

Зьніклі... Ізноў засьвяціліся
ў цемры балота агні...
Ціхай дрымотай пакрыліся
зноў агрыбелыя пні.

4.

Балота... Вязнуць ногі,
хістаюцца хворыя хвоі...
Схавалася ў мох дарога.
— Чакайце хлопцы!
Стой!...

Шасьцёра ўськінулі зброю...
Прыжмурыла вочы балота...
А перш спытаўся спакойна:
— Гэй, чалавек,
хто ты?

І зараз адказ на пытаньне
ўсьцішаў ўстрывожаны лес:
— Да вас я, таксама паўстанец...
з вёскі... Завуць—
Алесь...

5.

Ішлі... І калі сьвітаньне
месяцу сплюшчыла вочы—
сем сыноў паўстаньня
вышла са сьцежак воўчых.

Неба сьвяцілася раніцай,
імглою хмурнела балота...
Пудзілі поле паўстанцы
трэскам свайго кулямёта.

Першы сказаў:
— сягоньня
трэба пад вёску падлезьць—
хто з вас, сябры, ахвотнік?
— я...—адказаў Алесь.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А потым...
— «У мястэчку Разгонах
абстрэлен аддзел жандармаў»...
Дрыжала ніць тэлефону,
дрыжала зусім нядарма.

6.

А потым...
Ноччу асеньняй
ўздыхаў спахмурнелы лес...
Зоры гублялі праменьні
і крочылі сьцежкай шэсьць.

Уздыбіў шэрсьць абшарпаны,
галодны брадзяга—воўк...
Над сьвежым магільным курганам
зьбіраўся паўночны змрок.

І надпіс на хвоі блішчэла,
яе надпісалі шэсьць:
— ў змаганьні вялікай справы
загінуў
таварыш Алесь.



Іл. ЧАРЭШНЯ.

## Хай было

Хай было, але больш ня будзе,
хай было і зьвінела калісь;
ўспамінаюцца: зьмятыя грудзі
родных вёсак кроўвёй заплылі,
але так ужо больш-ня будзе.

Хай было... усхліпалі гарматы,
ў сэрцы кожнага: «жыць, ня жыць,
лепш за волю галоўмі адплата,
палёў родных ня рэзаць мяжы».
Было так і ўсхліпалі гарматы.

Знаю, час яшчэ новым паходам
прагучыць ў пераможную шыр,
будуць, будуць палі і заводы,
на бязьмежжы расьці і цьвісьці,
будзе час яшчэ новым паходам.

МІК. СЯМАШКА.

* * *

Ізноў душа гарыць
аднэй надзеяй,
у сэрцы радасьць ціха расьцвіла.

Туманы зьніклі, бо сярод завеяў
мы на вялікі
вышлі шлях...

Да новых берагоў
дайсьці мы зможам,—
што раз усё шырэй мільёнаў крок.

Ня зблудзім-жа пад сонейкам прыгожым,
калі і ў нас саміх
палае кроў.

## Летні вечар

Атуліла шэрань змрочнае сяло,
дол, нізіны туманамі спавіло.

Сонны ветрык на начлезе ў лісьці ліп,
дзесь над рэчкаю гармоніка ўсхліп...

Змоўклм звонкая жалейка пастуха,—
летні вечар заблудзіўся каля хат.

Месяц срэбны глянуў ласкава з-за хмар,
вымыў ў просіні вячэрняй ясны твар.

Зоркі ветла усьміхнуліся зямлі...
Ў сэрцы радасьць ды пачуцьцяў пераліў.

Сьпее жмутак незнаёмых песень-слоў...
Атуліла шэрань змрочнае сяло.



## ПЯТРО БЫКОЎСКІ

* * *

Сінія туманы паплылі ў прасторы,
з рэчкай, з сонным полем ціхі гай гаворыць...

Недзе там зарніца—каляровай стужкай,
яе сьпевам гучным салавей загушкаў.

Нахілілі лозы па-над рэчкай вецьце,
праляцеў над гаем валацуга-вецер.

Ды сьмяецца раньне пераліўным звонам,
гімн сьпявае сонцу—залатой кароне.

Вецер шэпча казкі роднай Беларусі,
а здаецца гэта, што загралі гусьлі.

Паплылі туманы ў сьветлыя прасторы,
ў сонечных праменьнях ціха зьніклі зоры.

## ТАРАС ХАДКЕВІЧ.

Няхай абдымала паляны імгла,
драмалі хаціны сівыя.
Завеі зьляталі на сонную гладзь
шалёныя... радасна вылі.

Прабеглі гадзіны
над шумнай зямлёй,
а сьнег па адгонах растаяў...
Ды толькі ня сыплем 'шчэ горасных сьлёз,
бо сёньня мы—волаты сталі.

Мільёнамі гордых, нядужаных рук,
дзе сьветлае раньне ірдзее
будуем сабе залатую пару
упарта і дружна
з надзеяй...

Няхай некаторыя ў бойках ляглі,—
сьпявалі ім гімны завеі.
А ветрык кудзелю прызрыстай імглы
па сініх абшарах разьвеяў...

І трактар сталёвы па гонях прайшоў
узьняў дзірваны і папары.
Ды толькі усходняй зары ясны шоўк
сусьветным палае
пажарам.

# Урывак

Сьлёзы ліў асеньнія ракітнік,
хмары шальлю пакрывалі даль...
Памахала хустачкай блакітнай
ды пашла назад,
каля ракі там,
дзе лес шэпты нудныя кідаў...

Гаманілі шэрыя паляны,
ў небе адляталі журавы...
Грукатаў цягнік па рэйках п'яны,
нёс далей ад белакурай Ганны,
ад пажоўклай, палявой травы...

Прамінулі дні так скора, скора
без затрымкі, бяз сухіх размоў.
Прытуліў мяне, як бацька, горад,
дзе гудкі ды вечны гул матораў,
а цябе там дома—
камсамол.

Напісала. Ні тугі—дакораў,
ні жальбы, ні лішніх, нізкіх слоў...
— Ты працуеш... Мне вялікі гонар,
што такім зноў радасным, бадзёрым,
а былое з ветрам панясло...

— Ведаеш: інакшай стала Ганна
(кожны вечар сход, а там даклад)—
я цяпер ад вёскі
дэлегатка,
хоць часамі трапяцца заганы,
але думак не спаўе імгла...

Прачытаў. За вокнамі так гучна
вуліца кідае галасы...
Недзе загудзеў гудок пявучы—
хваля тае быццам-бы над кручай
ды імкнецца ў палявую сінь.

Неба сыпле кропелькамі нізка,
а панэль ад дожджу нібы шкло...
Ганна для мяне—
такою блізкай,
як сястра. Бяз лішніх кволых слоў.

Успаміны: сьлёзы ліў ракітнік,
хмары шальлю пакрывалі даль...
Памахала хустачкай блакітнай
ды пашла назад
каля ракі там,
дзе лес шэпты нудныя кідаў...

РЫГОР ХВОЙКА.

# Сястры

Табе сястра
у горад дальні,
у шумны горад
шлю прывет...
Я ўспомніў дні,
што стромкай хваляй
жыцьцё будзілі
з самых нетр.

Я ўспомніў дні:
калісь бывала—
рабяцкі сьмех
і крык і плач...
З табой гулялі
мы ня мала,
ня мала бачылі
няўдач.

Я ўспамінаю
гэты ніці,
нас лёс па рознаму павёў:
ты там, дзе звоняць
камяніцы,
а я ля аўсяных палёў.

Ідзем абое мы да мэты,
мінуўшы круцізну
дарог—
за новы лёс
усей плянэты,
за шчасьце новых перамог.



ПЯТРУСЬ БРОЎКА.

# ТРЫ САСНЫ

Сярод невялічкага поля, сьціснутага са ўсіх бакоў каламатымі пералескамі, хмызьнякамі, ў сэрцы жытнёвага мора калосьсяў стаяць тры сасны...

Пяюць калосьсі... пяюць і сосны... Але больш глыбока, больш цягуча і прыгожа сьпяваюць сосны; калосьсі толькі ўглядаюцца ў іх кашлатыя галовы ды падцягваюць мінорам... Неба жмурыць бровы і слухае песьню, зьвесіўшы шапку на бок слухае вёска, слухае поле, лес, слухаюць усе... Паслухайце-ж і вы аб чым гэта песьня:

**Галя**

Вось і цяпер яна стаіць ля гэтых сасён. Гады праляцелі як віхор, падхапілі, закруцілі Галю ў сваім віры і ў разьвітаньне паклалі на яе прыгожы лобпучок каляінак змаршчын. Ад пацалункаў гэтых-жа гадоў асьнежана палова галавы ў Галі, ад абдымкаў іх—прыгнуліся плечы, ад іх перажываньняў закаціліся вочы далёка, далёка і ледзь, ледзь зеленяваты сьвет іскрыцца з пад чорных, асьнежаных броў... Вось пакаціліся сьлёзы як боб, гарачыя, празрыстыя. Кладуцца радкамі на жывы вянок магілкі... Галя сагнулася, абшчапіла так палка, так натхнёна гэты курганок зямлі, нібыта так як абдымаюць дзяўчаты любага пры разьвітаньні на доўгі час... А хто знае,

мо гэтая зямля, якую яна так цёпла абдымае і ёсьць даражэй ёй за ўсё. Так, яно і ёсьць. Там пахаваны яе любы **Рыгорка**.

**Таму ўжо 8 год**

А Рыгорку было семнаццаць... Зьвіваючыся як вужака цячэ Бяроза... Нішто яе не зьмяніла. Яна такая самая, як і сто год назад і толькі вада крыху парыжэла. А чаго?..

1920 год. На тым беразе палякі. У нас чырвоныя. Гудуць гарматы, знарады сьсякаюць верхавіньне дрэў і галовы людзей, кулі сьвідруюць ствалы дрэў, пні, косяць траву і сьвідруюць сэрцы людзей.

Вунь прыгнуўшыся паўзе ля берагу ў зялёнай, чырвонаармейскай вопратцы і сам зялёны малады хлапец .. І толькі кучаравыя, чорныя як смоль валасы кажуць, што ён прыгожы, што гэта ўтома часова лягла на яго твар, яна сыйдзе тады калі й на тым баку будзе вольна, вясёла... Гэта Рыгор Курган з вёскі Сівы Мах. Ен тутэйшы... малады, але хітры... быў атаманам партызан, а цяпер начальнік палкавой разьведкі.

Аднойчы позьняю ноччу, ледзь, ледзь ужо сьвітала палякі моцна ўдарылі па леваму флангу. Нашых было мала. Ня вытрымалі... адступілі. Рыгора паклікаў камісар палка. Прамова кароткая была... «Рыгор ты застаешся зноў на партызанскай рабоце. Не надоўга!.. Арганізоўвай і работай!»

Рыгор не чакаў больш нічога з губ гэтага абветранага, мускульнага твару. Ен ведаў свайго камісара і камісар яго.

* *
*

Ноч. Цемень абшчарэпіла поле і лес, грудзьмі налегла на згорбленыя стрэхі хат. Здалёку белаю

зданьню сьвеціцца панскі палац... Там штаб польскай дывізыі. Рыгор вужакаю паўзе па канавах, ля частаколу... Яму трэба выхапіць сакрэтныя дакуманты... Хутка з наскокам тыгру перахрушчвае горла вартавому... Толькі ўздох о-о-х!... хрып... і больш нічога. Ускаквае згорача ў пакой. Шукае... пот на лбу... рукі дрыжаць ад нэрвовасьці... Узламвае скрынкі... няма!.. Моцна пугаецца і назад. У дзьвярох:

— Стой! пся крэў!..

Хрушчыць і гэтаму горла. На другім парозе, двое:

— Стой! пся крэў!...

Дарэмныя патугі... зьвязалі і ўкінулі пад варту ў яму для бульбы...

* * *

Дзень як нарачыта вясёлы. Сьмяецца сонца, але ныюць мужыцкія грудзі... Рыгора вядуць да трох сасён. Побач чатыры з чатырохкантуўкамі і шаблямі, якія агідна блішчаць. Адзаду вусаты ў палетах... А яшчэ воддаль няйдзе і уцягнецца пакідаючы ручаі сьлез Галя, паўзе старая маці і шамкаюць у зьнямозе губы.

* * *

Тры сасны, Стой пся крэў!..

— Яшчэ раз кажы дзе астатнія?!

Маўчанка—адказ. Растшэляць. А паабапал поўзаюць і сьлезьмі льлюцца маці і Галя...

— Даруйце! паночкі, даруйце.

Абцацы па галаве адказ. Рыгор ня вытрымаў:

— Эх сволачы, ня доўга вам! Мама! Галячка бывай! ня кінуць вас і без мяне.

— А пся крэў, бальшавік, яшчэ размаўляць. Стшэляй!..

Ба!.. Чатыры адарваных стрэлы схаваліся ў грудзёх. Бывайце... Ха-й жы-ве Ка-му-ні-с... і хрып...

* * *

Рыгора ня стала.

Тры сасны... могілкі і Галя, якая ніколі не запамятвае, а старая маці памёрла... Ня вытрымала...

* * *

Сумныя песьні трох сасён.



СЬЦЯПАН СЯМАШКА.

# ЛЯ КРЫВАВАГА РУЧЧА

Сонейка паднялося на поўдзень і нібы-та застанавілася. Яно купалася залатымі праменьнямі ў шаўковай з разнаколернымі краскамі траве і ў зялёных яравых палёх. Неба чыстае і глыбокае. Сьпека. Гарачынь. Млявасьць ва ўсім целе. Здаецца здужыла-б і малое дзіцё ў такую пагоду. Птушкі спыніўшы звонкую песьню пахаваліся ў кусты. Толькі і чуцен нясупынны гуд мух і аваднёў, ды матылькі пырхаючы з красачкі на красачку мітусяцца ў ваччу белымі сьняжынкамі.

Утома, смага ў роце, але прыгожа і прыемна. І я з дзедам Мацеем паварочаўшы накошанае ўчора сена,—ляжым пад малінавым кустом, што над самым руччом і любуемся хараством прыроды.

Ляжым моўчкі...

А ручэй гамоніць быстрацечнай халоднай вадзіцай. А ручэй цалуецца з берагамі і, здаецца вось як хоча ён зірнуць праз цяністыя кусты маліньніку і лазьняку на залатое сонейка і блакітнае неба; зірнуць на ўвесь сьвет і адкрыць людзям таямніцы свае, якія ведае адзін толькі дзед Мацей.

Так, Мацей усё ведае. Ен ведае: чаму гэты ручэй атрымаў жудасную, але гістарычную назву—«Крывавага». Ды і як Мацею ня ведаць пра гэта,

калі ён старэй за ўсіх у ваколіцы, калі ён сам даваў руччу гэтую назву.

Дзевяць дзесяткаў Мацей пражыў, а яшчэ бадзёры духам і ў працы па гаспадарцы—вялікая падмога. Вочы толькі ў дзеда памуціліся (мо' ад старасьці, а мо' і ад таго што сьлёз шмат пралілі), ды чуць слабы стаў, а галава белая, як сьнег.

Дарма, што Мацей пражыў шмат год, а ўміраць яшчэ ня хоча, прагнасьць мае да жыцьця.

— Ось хоць-бы яшчэ годзікаў дзесятак пражыць,—часта кажа ён,—гэдак добра цяпер стала, ня тое, што даўней...

Асабліва зьяўляецца ў дзеда гэтае жаданьне, калі пачынае ўспамінаць сваё маленства, жыцьцё пры прыгоне, пры царскай уладзе... У Мацея мімаволі тады коцяцца з вачэй па худасочнаму твару сьлёзы і ён скрозь іх зайздросьціць маладым:

— Вы шчасьлівы, дзеткі, што не давялося вам жыць у тыя часы...

* * *

Ляжым...

Сонца бязьлітасна льле гарачынь. Рубашка ліпне к целу, а ногі нібы ў прыску знаходзяцца.

Я павярнуўся на бруха і схаваў ногі у густой траве. Мацей таксама шмат варочаўся падстаўляючы пад праменьні пякучага сонца то адзін, то другі бок, а пасьля ракам спусьціўся к руччу і прыгоршчамі напіўся вады.

—Аж падужэў, як напіўся халодненькай вадзіцы,—прамовіў ён, зноў падымаючыся пад малінавы куст.

Для мяне зьявілася самая падыходзячая хвіліна запытацца ў дзеда аб тым, аб чым увесь час марыў даведацца і, я запытаў.

— А скажы, дзядуля, чаму вось ён завецца «Крывавым», калі вада ў ім такая чыстая, як крышталь?

У Мацея адразу спахмурнеў твар, а белыя густыя бровы насунуліся на выцьвіўшыя вочы. Як-бы ня ўчуўшы майго запытаньня, ён моўчкі прыпадняўся крыху і пачаў камшаць пад сябе сакавітую траву, каб па спрытней легчы.

Я не адставаў.

— Скажы, дзядуля, чаму?

— Колькі разоў гаварыў і зноў...,—буркнуў безахвотна ён уздыхаючы.

— Пра ручэй?

— Ды не, пра даўнейшае...

— Я-ж не пра тое... Пра ручэй кажу раскажы... Чаму вось ён носіць гэтую назву?

Мацей яшчэ цяжэй уздыхнуў.

— Ох, дзетка... гаварыць пра Крывавы ручэй— усёроўна, што зноў успамінаць даўнейшае жыцьцё.. колам яно ў зямлю хай будзе.

...Ен доўга ляжаў моўчкі, ні слова не адказваючы на мае далейшыя просьбы, а пасьля пачаў, павярнуўшыся на другі бок.

— Бачыш вунь у канцы гаю над самым руччом невялічкі ўзгорачак?—запытаў ён паказваючы пальцам.

— Бачу,—адказаў я.

— Ну от, там калісьці, за прыгонам стаяла каплічка, а супроць яе яшчэ бліжэй к руччу—на паўваршына з зямлі—тарчаў шырокі як стол дубовы пень. А дзе цяпер арцель, у гэтым маёнтку жыў тады пан Зубрэвіч. Ох і злы-ж быў... страх які злы. Гад быў, а не чалавек... ніякай літасьці ня меў над мужыком. За глупства, бывала прычэпіцца і загадвае катаваць, ды так, што...

Тут Мацей раптам спыніўся і пачаў выціраць рукавом кашулі лоб і вочы.

— Пытаеш: чаму ручэй завецца «Крывавым»... кроў людзкая па ім цякла тады, от што,—дадаў Мацей скрозь сьлёзы і зноў замоўк.

У гэтай невялічкай, але шчырай жмені слоў я адчуў нешта жудаснае, балючае і мне шкода стала дзеда.

Як-бы здаволіўшыся адказам на запытаньне, я апусьціў вочы ў траву і ў думках пачаў перабіраць ахапкі Мацеевых успамінаў пра даўнейшае жыцьцё, аб якім ён так часта гаварыў. Я стараўся знайсьці ў гэтых успамінах хоць невялічкі кавалачак радаснага, шчасьлівага жыцьця дзеда, але я гэтага не знаходзіў і мне яшчэ больш стала шкода Мацея.

...Я маўчаў, а Мацей далей апавядаў.

— Хоць тады мне было ўсяго толькі трынаццаць год, а ўсё памятаю, нібы гэтае вось сёньня было... Паложаць бывала мужыка на шырокі той пень, удвох трымаюць яго за галаву і ногі, а ўдвох на зьмену катаваюць намочваючы акрываўленыя бізуны ў гэтым вось руччы. Адбіткі бізуноў вужакамі кlaліся на людзкім целе... Гарачая кроў пырскала ваўсе бакі з-пад кожнага замаху катавай рукі... А калі пакутнік губляў памяць, тады на яго ўзлівалі вядро халоднай вады, якая на хвіліну абмывала скрамсаную бізунамі сьпіну і ружовымі струменьчыкамі зьбягала зноў у ручэй... Аднаго здымалі—клалі другога, трэцяга, чацьвёртага... кругом плач, енкат... А пан сядзіць тут-жа ў крэсьле і злосна ўсміхаецца. Ручэй чырванеў...

Мацей замоўк агорнуты жалем.

Упіўшыся вачмі ў сівога дзядулю маўчаў і я. Зьявілася нейкая помста, а каму, дык і сам я ня мог зразумець: ці тым, хто бязьлітасна па зьвяры-

наму разрываў на ласкуты людзкую скуру на дубовым пні, ці мо' тым, хто невялічкай кучцы людзей даў уладу так зьдзеквацца над шматміліённым народам.

Шкода было тых, хто сваей крывёй фарбаваў ручэй, шкода было Мацея, які праз мяне яшчэ раз успомніў жудасныя малюнкі жыцьця. Мне было неякавата і я капаўся у думках знайсьці якое-небудзь слова, якім-бы мог развесяліць Мацея, прымусіць яго забыцца на тое, аб чым толькі што ён гаварыў. Але нічога ласкавага я ня мог прыдумаць і па ранейшаму маўчаў, нібы чакаючы ўчуць ад Мацея гутарку пра сучаснае жыцьцё, пра якое ён заўсёды гаварыў з запалам і радаснай усьмешкай на твары.

Прашло некалькі хвілін.

Пасьля зноў Мацей цягнуў распачатае.

— ...Тады, кажу, невялікім быў я, гусей пасьвіў у таго-ж самага пана і бізунамі не катавалі як бацьку майго і матку, а вось пры паляках...

З яго вачэй зноў выкаціліся буйныя кроплі гарачых сьлёз на худыя шчокі.

— ... Гэта-ж дык ня так даўно было, на тваей памяці, а толькі цябе ня было тады тут, у нашых быў ты, у бальшавікоў... Сяляне атрымалі ад паноў і польскага войска ўсё тое, што іх дзяды атрымоўвалі ў час прыгону... Трапіў і я пад польскі бізун, праз сваіх-жа хлопцаў вясковых...

— Як гэта праз сваіх?—зьдзіўлёна запытаў я.

— А так, што ўсе яны тады былі пашоўшы ў партызаны, знаходзіліся ў гушчары ельніку, што за Бярозаўкай... Туды ім ноччу старыкі і кабеты насілі харчы і розныя зьвесткі наконт палякаў... Вялікі быў атрад, амаль са ўсёй ваколіцы былі ў ім хлопцы, ды такія бадзёрыя сьмелыя, што...Памятаю, аднойчы

трэба было перадаць атраду зьвесткі аб колькасьці жаўнераў, якія знаходзіліся ў Лазоўцы, дзеля таго, каб падрыхтаваць налёт; на гэты раз была мая чарга ісьці са зьвесткамі і—я адправіўся. Была цёплая летняя ноч, сьвяціў месяц, але няпрыкметна цераз гароды, а пасьля па мяжы праз жыта я падкраўся ў самы гушчар к хлопцам... Туды значыцца прабраўся добра, а вось як ішоў назад—здарылася няшчасьце; уваходзячы ў самую вёску, мне раптоўна, злосна крыкнуў польскі жаўнер вынырнуўшы з-за вугла Трахімавай пуні.

— Стой! хто ідзе?!

Хацеў я кінуцца назад і схавацца ў жыце, але зрабіць гэтае было надта рызыкоўна таму, што— пасьля стрэлу ў паветра—карабін быў накіраван прама ў мяне. Жаўнер лаяўся.

— Ото псякрэў стары, шпіён бальшавіцкі!... ідзь да паручніка!

Разам з лаянкай, ён моцна ударыў мяне прыкладам карабіна ў плечы, аж іскры з вачэй пасыпаліся, але ўтрымаўся на нагах... пашоў наперадзі жаўнера да паручніка. Пасьля доўгіх выпытаў аднosна партызанскага атраду, паручнік загадаў катаваць мяне па голай сьпіне за тое, што ня выдаў... згубіў памяць... І толькі ачунеў крыху на другі дзень у крапіве пад плотам... туды выцягнулі мяне па загаду паручніка...

— А налёт зрабілі хлопцы?—запытаў я.

Мацей махнуў рукой і крыху падсунуўся да мяне.

— Налёт зрабілі дачакаўшыся другой начы, захапілі у палякаў кулямёт, некалькі карабінаў і шмат патронаў, але пасьля шмат хто налажыўся галавою за ўсё гэтае...

Мацей зноў мімаволі заміргаў вачыма, а на шчалках заблішчалі кроплі сьлёз. Ен доўга ад жалю ня мог гаварыць і—нібыта імкнучыся захаваць ад мяне ўсё гэтае—бяз ніякай прычыны пачаў камшаць вакол сябе траву, пачаў папраўляцца.

— Так... шмат хто налажыўся галавою тады... А гэты самы ручэй абмываў гарачую яшчэ кроў з сьвежых трупаў людзей... Да прыходу Чырвоных, партызаны не маглі ўтрымаць Лазоўку, зноў яе занялі палякі і пачалі наводзіць свае парадкі. Перш за ўсё забралі застаўшых у вёсцы мужчын і каталі, пасьля прывёўшы усіх вунь на тый самы ўзгорак, што над руччом... расстрэльвалі выводзячы па аднаму з шарэнгі на самы бераг ручча.

Пасьля кожнага стрэлу ручэй прымаў у свае абнімкі з апошнімі ўздыхамі афяру... Загінулі тады: Антось, Юрка, Лаўрэн, Тамаш, Захар, загінуў, тады там і... мой Яначка. Усе не зьвярнуліся-б дамоў, але коньніца наша перашкодзіла раптоўным наскокам.

Дзед Мацей скончыў апавядаць і спахмурнеў. Крыху паляжаўшы, ён зноў спусьціўся уніз к руччу і напіўся вады, а пасьля падняўшыся лег на сьвежае месца схаваўшы ад сонца галаву пад вецьці малінавага куста.

* * *

Сонейка крыху сышло з паўдня, але гарачынь ліло па ранейшаму бяз утомы. Дзесь у высі бясконца рассыпаўся звонкай песьняй жаўранак і ў кустох ля ручча—нібы-та спрасонку—павольна пачалася птушыная пераклічка. Пералятаючы з ігрушыны ў гай зязюля на ляту кінула над намі «ку-ку» і захахатала.

Чуўся нясупынны гуд мух і аваднёў. Матылькі пырхаючы з красачкі на красачку мітусіліся ў ваччу белымі сьняжынкамі...

... А ручэй гаманіў цалуючыся з берагамі.

А ручэй хацеў зірнуць праз цяністыя кусты на бязмежна-блакітную шыр неба, на пякучае сонейка; зірнуць на ўвесь сьвет і расказаць людзям пра сваю жудасную назву.

1928 г.



# ЗЬМЕСТ